www.nv-online.info

**№ 11 (3752)**

8 лютага 2013 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля». Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## *Людзі будуць плаціць за газіфікацыю самі*

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ, які ўнёс змены ў парадак фінансавання расходаў па газіфікацыі жылых дамоў грамадзян. Дзяржава проста адмовілася ў гэтым удзельнічаць.Так, рашэннем прэзідэнта ўнесены змены ва Указ №368 ад 2 чэрвеня 2006 г. "Аб мерах па рэгуляванні адносін пры газіфікацыі прыродным газам эксплуатаванага жыллёвага фонду грамадзян". Згодна з гэтым дакументам, раней праектаванне і будаўніцтва газаправодаў эксплуатаванага жыллёвага фонду ажыццяўлялася з дзвюх крыніц. Да двух працэнтаў выдаткаў пакрывалася са сродкаў інавацыйнага фонду, створанага Міністэрствам энергетыкі, а астатняе — са сродкаў грамадзян, якім належаць на правах уласнасці жылыя памяшканні. Цяпер жа дзяржава не будзе пакрываць нават той мізэр выдаткаў, якія пакрывала раней. Згодна са зменамі ва ўказе, усе выдаткі па праектаванні, урэзцы ў газаправод і пракладцы газавых камунікацый унутры дома будуць несці выключна ўладальнікі нерухомасці.

**НА КОНЧЫКУ ЯЗЫКА**



# За што?!

Гэтыя два словы вісяць на кончыку майго языка ўжо не першы месяц. І нават не першы год. З таго дня, як па-бандыцку кінулі ў турму Зміцера Дашкевіча.

Сапраўды: ***за што?!***

Нікога не забіў.

Не залез у сховішча Нацбанка.

Не згвалціў жонку высокага чыноўніка.

Нават не быў на Плошчы ў той памятны снежаньскі вечар 2010 года.

Дык за што хлопец гібее за кратамі?

Як ні прыкра, але, атрымліваецца, гібее за тое, што бацькі выхавалі яго сумленным чалавекам. Свабодалюбным чалавекам. Патрыётам Беларусі.

Ён мог стаць кар'ерыстам. Не стаў.

Ён мог стаць бізнесменам-хапугам. Не стаў.

Ён мог стаць прыстасаванцам. Не стаў.

Ён мог з'ехаць за мяжу і там знайсці сваё шчасце. Не з'ехаў.

Ён стаў патрыётам Беларусі. Важаком такіх жа маладых дэмакратаў, як сам.

Ён, рызыкуючы жыццём, адкрыта выступіў супраць улад, якія сябе любяць больш, чым народ, больш, чым Беларусь.

Ён ва ўвесь рост паўстаў супраць выбараў без... выбару.

Ён як мог ратаваў сваё пакаленне, якое калечыцца сённяшнім рэжымам.

І за гэта — за краты?! З карцара — у карцар?! Дадатковы тэрмін зняволення?

Днямі я бачыў Насту Палажанку, з якой Зміцер пабраўся шлюбам, як ні горка, у турме. Пісаная прыгажуня! Як быццам сышла з палотнаў Рафаэля. Якія цудоўныя дзеткі нараджаліся б у іх, калі б Зміцера ўжо трэці год не трымалі за калючым дротам!

Зноў на кончыку языка тое ж пытанне:

**ЗА ШТО?!**

Яго схапілі напярэдадні 19 снежня 2010 года. За дзень да Плошчы, за якую крывёю заплацілі сотні, тысячы беларусаў. Якая ўвойдзе ў гісторыю, як увайшоў у гісторыю кліч Кастуся Каліноўскага з-пад шыбеніцы.

Каліноўскаму было 25, калі Мураўёў-вешальнік, апрычнік расійскага цара, кінуў яго на нары сумнавядомых Лукішак. Зміцер Дашкевіч — амаль равеснік Кастуся. Не, нельга дапусціць, каб Зміцера напаткаў трагічны лёс Каліноўскага.

І зноў на кончыку языка тое ж пытанне:

**ЗА ШТО?!**

За што ўлады гнояць у турме сапраўднага беларуса?

Не веру, ніколечкі не веру ў справядлівасць прысуду, які вынесла суддзя Маскоўскага суда г.Мінска Алена Шылько.

Я не раз меў гаворку са Зміцерам. Многа гадоў ведаю яго бацьку. Як яблык недалёка коціцца ад яблыні, так сын гарнуўся да бацькі, які шмат чаго пабачыў у сваім жыцці, але заўжды заставаўся верным Бацькаўшчыне. Такой жа патрыёткай была і маці Зміцера, якая, на жаль, не вытрымала здзекаў з сына і заўчасна памерла.

Не, Зміцер — не злачынца. Пад расстрэлам не пагаджуся з тым, што ён са сваім сябрам Эдуардам Лобавым быццам без дай прычыны накінуўся на *нейкіх* грамадзян Канстанціна Савіцкага і Алега Малышава. Ужо тое, што гэтыя "грамадзяне" на судзе не паказалі сваіх твараў, не назвалі ні сваіх сапраўдных месцаў жыхарства, ні месцаў працы, дае падставы меркаваць, адкуль яны, з якой *"канторы",* хто ім загадаў учыніць правакацыю супраць Зміцера і Эдуарда. Яшчэ раз заўважце: усё гэта адбылося за дзень да Плошчы.

Не, Зміцер не зачыншчык нейкай бойкі, нават не хуліган, учынак якога цягне на звычайныя пятнаццаць сутак. Міне пэўны час, і ўжо *сумленная* Феміда скажа сваё слова. А сёння я сплю і бачу Зміцера на свабодзе. Як бачу на свабодзе і яго сябра Эдуарда Лобава.

Трымайцеся, хлопцы!!!

За такімі, як вы, — будучыня Беларусі.

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**галоўны рэдактар**
**газеты "Народная Воля".**

**P.S.** *Вядома ж, мае словы падтрымкі — і ўсім астатнім, хто беспадстаўна зняволены і пакутуе за калючым дротам.*

**ПРАЕКТ**

## *Канец нафтавай мары*

*Беларусь і Іран цалкам закрылі праект па здабычы нафты на радовішчы Джафэір.*

Рэалізацыя праекта па здабычы Беларуссю нафты на іранскім радовішчы Джафэір цалкам спынена. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску пасол Ірана ў Беларусі **Махамад Рэза Сабураў**.

Адказваючы на пытанне аб прычынах закрыцця праекта, ён сказаў, што паўсталі прававыя і тэхнічныя праблемы, але не стаў удакладняць, якія менавіта. *"Мы не змаглі дасягнуць згоды ў вырашэнні гэтых праблем, таму спынілі працу,* — сказаў Махамад Рэза Сабураў. — *Спадзяёмся, што Беларусь, выкарыстоўваючы свой досвед у нафтавай сферы, зможа ўдзельнічаць у іншых праектах у Іране".*

Нагадаем, што праект быў шырока разрэкламаваны беларускімі СМІ і быў скіраваны на арганізацыю здабычы нафты беларускім бокам на радовішчы Джафэір. Працягласць радовішча складае 22 км у даўжыню і 10 км у шырыню, запасы нафты ацэньваюцца ў 2,1 мільярда барэляў, таму гучалі нават выказванні, што мы нарэшце знайшлі альтэрнатыву расійскай нафце.

Кантрактнае пагадненне на 500 мільёнаў долараў было заключана "Беларуснафтай" і Нацыянальнай іранскай нафтавай кампаніяй у верасні 2007 года. Беларуская кампанія атрымлівала права на распрацоўку радовішча Джафэір, і "Стратэгія развіцця энергетычнага патэнцыялу Беларусі на перыяд да канца 2020 года" прадугледжвала здабычу ў Іране больш як 9 мільёнаў тон нафты. Але ўсё сарвалося.

Як паведаміла іранскае інфармагенцтва Mehr са спасылкай на свае крыніцы, прычынай скасавання кантракта сталі рознагалоссі бакоў, якія тычацца метадаў і тэхналогій вядзення работ, а таксама грашовай кампенсацыі іранскаму боку за выкарыстанне Беларуссю яе радовішча. Беларускі бок, па словах крыніцы, не выконваў свае абавязацельствы па кантракце.

Варта, аднак, зазначыць і тое, што іранскі праект прынёс "Беларуснафце" сур'ёзныя непрыемнасці. У сакавіку 2011 года ўрад ЗША ўвёў санкцыі ў дачыненні да беларускай кампаніі, і падставай для гэтага стала менавіта супрацоўніцтва з Іранам у нафтавай сферы. Санкцыі фактычна закрылі доступ "Беларуснафце" на амерыканскі рынак.

**Алег СНОЎ.**

**ПРА ШТО ГАВОРАЦЬ...**

# Сельсаветам прыйшоў капец?

*Навіна, якая ўсхвалявала многіх, прагучала мімаходзь. Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына падчас інтэрв'ю тэлеканалу "Беларусь 1" паведаміла, што на нарадзе з удзелам Аляксандра Лукашэнкі абмяркоўвалася магчымасць ліквідацыі сельскіх і пасялковых саветаў. Іншымі словамі, у бліжэйшы час можа быць зменена ўся тая сістэма кіравання, якая ў сельскай мясцовасці існавала дзесяцігоддзямі.*

*Сама Лідзія Ярмошына лічыць скасаванне сельскіх саветаў магчымым, таму што* ***"там вельмі цяжка знайсці будучых кандыдатаў у дэпутаты і забяспечыць потым работу гэтых прадстаўнічых органаў, якія валодаюць даволі невялікімі паўнамоцтвамі"****.*

*"Народная Воля" вырашыла пацікавіцца ў вяскоўцаў, ці сапраўды такі інстытут, як сельсавет, сябе цалкам зжыў.*

*"Да вы што? Не можа такога быць! Прэзідэнт жа сам казаў, каб сельсаветы не чапалі,* — здзіўляецца пытанню мой суразмоўца, старшыня Гайнаўскага сельсавета Лагойскага раёна **Андрэй Свібовіч.** — *Па ўсіх пытаннях людзі звяртаюцца ў сельсавет. Уявіце сабе, што ў нас каля паўтары тысячы чалавек жывуць стала, а яшчэ паўтары тысячы — дачнікі, як я іх называю. Яны ездзяць з вясны і да канца восені, агароды садзяць, даглядаюць сваю гаспадарку. Некаторыя пенсіянеры жывуць у вёсцы ўвесь год і толькі на зіму едуць у горад. Карэнныя жыхары ў большасці людзі сталага веку. Звяртаюцца да нас па самых розных пытаннях: каму дровы патрэбны, каму дах адрамантаваць, каму плот падправіць, каму электрыка трэба... Усяго адразу і не пералічыць. Мы ж сочым і за асвятленнем вуліц, і за станам дарог, ды шмат яшчэ чаго рознага. А трэба ж аб'ехаць усе вёскі, ды пры гэтым яшчэ і ў ліміт паліва ўпісацца. Думаеце, гэта проста? Не будзе сельсаветаў, дык як тады людзі сталага веку будуць дабірацца за 60 кіламетраў у райцэнтр за нейкай там даведкай? І навошта гэта? Мне падаецца, што сельсаветы ніколі не ліквідуюць. Гэтага не можа быць. Можа, вы нешта не зразумелі?"* — з надзеяй у голасе запытвае Андрэй Свібовіч і на развітанне цікавіцца, дзе можна прачытаць інфармацыю пра магчымую ліквідацыю сельсаветаў.



Спадар Свібовіч мае рацыю. Выказванні кіраўніка краіны ў абарону сельсаветаў не толькі былі, але яны яшчэ ў 2007 годзе падмацаваліся Указам №21 "Аб павышэнні ролі органаў мясцовага кіравання і самакіравання ў вырашэнні пытанняў жыццезабеспячэння насельніцтва". Згодна з дакументам, павінна была адбыцца сапраўдная рэвалюцыя ў мясцовым кіраванні. Дзяржава і старшыні сельсаветаў на месцах павінны былі ствараць умовы для актыўнага перамяшчэння малога і сярэдняга бізнесу ў глыбінку. У прыватнасці, рэгістраваць фірмы, вылучаць ім памяшканні, зямельныя ўчасткі. Дэкларатыўна, згодна з указам, утвараліся бюджэты саветаў пярвічнага ўзроўню. Але што з гэтага атрымалася на практыцы? Пацяклі ракой фінансы ў сельскую глыбінку?

Спадзяваліся яшчэ на адну крыніцу папаўнення даходаў сельсаветаў, які дазваляе вырашаць многія штодзённыя праблемы, — гэта самаабкладанне. Людзі сталага веку памятаюць, што ў савецкія часы гэта была распаўсюджаная практыка. Рабілася гэта яно на вёсцы па пастанове, прынятай большасцю галасоў на агульным сходзе жыхароў сельсавета. Сабраныя шляхам самаабкладання сродкі не ўключаліся ў бюджэт сельсавета, а расходаваліся звыш яго на розныя патрэбы. Але тады і вёскі былі іншыя, і людзей там пражывала больш, чым у гарадах. Цяпер жа ўсё наадварот. Сёння сродкі, сабраныя ў пазабюджэтныя фонды, як правіла, накіроўваюцца на самыя неадкладныя сельскія патрэбы — добраўпарадкаванне, рамонт калодзежаў, водаправодаў, уборку несанкцыянаваных звалак і г.д. Але праблема ў тым, што далёка не заўсёды гэтыя сродкі ёсць ці іх не хапае. Пры такой сітуацыі сельсаветы боўтаюцца з усіх сіл, каб папросту выжыць.

У сённяшняй сітуацыі казаць пра нейкае самакіраванне саветаў і выканкамаў было б глупствам. Яны даўно сталі органамі, якія прызначае дзяржава. Палітолаг Дзяніс Мельянцоў тлумачыць гэта наступным чынам: *"Які цэнтральны орган захоча аддаць частку сваіх паўнамоцтваў, каб людзі на месцах праводзілі сваю палітыку? Мне цяжка ўявіць, каб у цяперашняй палітычнай і эканамічнай сітуацыі была праведзена маштабная рэформа".*

Большасці мясцовых жыхароў, якія ў сённяшняй вёсцы дажываюць свой век, не да нюансаў выбарчай палітыкі ці асаблівасцяў дзяржаўнага кіравання. Для іх сельсавет па-ранейшаму перш за ўсё тая самая кантора, якая дапамагае ім вырашыць іх пытанні. І калі рашэнне пра змену адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення ўсё ж будзе прынята, то ў Беларусі можа знікнуць 1365 сельскіх саветаў... Ці лягчэй пасля гэтага будзе жыць?..

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ПАЛІТКУХНЯ**

# Прыслухаюцца?

Улады збольшага агучылі свае прапановы па змене выбарчага заканадаўства. Пра гэта мы падрабязна пісалі ў мінулым нумары "Народнай Волі". А што прапануе апазіцыя?

Шэраг палітычных і грамадскіх структур узгаднілі прапановы змен і дапаўненняў у некаторыя законы па пытаннях правядзення выбараў і рэферэндумаў. Дакумент падпісаны, як тое і анансаваў у інтэрв'ю нашаму выданню кіраўнік Партыі левых "Справядлівы свет" Сяргей Калякін.

Законапраект будзе накіраваны суб'ектам заканадаўчай ініцыятывы разам з суправаджальным лістом. Калі дакладней, кіраўніку краіны, ва ўрад, а таксама дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі, у Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў, што адказны за складанне новага Выбарчага кодэкса. Ініцыятыву падтрымалі рух "За Свабоду", грамадская кампанія "Гавары праўду!", партыі "Справядлівы свет", БНФ, "Зялёныя" ды іншыя.

Нагадаем, што Аляксандр Лукашэнка на нядаўняй нарадзе па зменах Выбарчага кодэкса сказаў, што будуць прыняты толькі тыя прапановы, якія ідуць на карысць краіне. Цяпер, калі прапановы апазіцыі будуць праігнараваны, яму трэба будзе растлумачыць, каму ў краіне пашкодзіць правядзенне выбараў па чэсных правілах.

Прапанаваныя навацыі ў выбарчае заканадаўства закліканы зрабіць выбарчыя камісіі сапраўды незалежнымі. У прыватнасці, гаворка вядзецца пра ўключэнне ў іх склад прадстаўнікоў палітычных партый, якія бяруць удзел у выбарах, і справядлівы механізм адбору ў склад камісій прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў і грамадзян у тых выпадках, калі колькасць заявак на ўключэнне ў камісіі перавышае вызначаную колькасць сябраў камісій.

Змены таксама скіраваны на гарантаванне правоў кандыдатаў на вядзенне перадвыбарнай агітацыі шляхам правядзення масавых мерапрыемстваў.

Прапануецца замацаваць права назіральнікаў сачыць за падлікам галасоў такім чынам, каб бачыць волевыяўленне грамадзян у кожным бюлетэні, атрымліваць любую інфармацыю, якая тычыцца выбараў, а таксама фіксаваць працэс падліку галасоў наяўнымі ў іх распараджэнні сродкамі.

А выбарчыя камісіі прапануецца абавязаць весці галосны падлік галасоў асобна па кожным з відаў галасавання і па кожнай з выкарыстаных падчас галасавання скрыняў, а таксама фіксаваць вынікі асобнага падліку галасоў у выніковым пратаколе.

Яшчэ адна мэта паправак — "ускладніць магчымасці прымусу грамадзян галасаваць датэрмінова ці па месцы знаходжання ў дзень выбараў".

*"Прыняцце прапанаваных змен заканадаўства значна павысіць упэўненасць грамадзян у тым, што вынікі выбараў, якія абвяшчаюцца, адпавядаюць зробленаму імі волевыяўленню. Гэта павысіць легітымнасць абраных органаў улады ўнутры краіны і на міжнароднай арэне",* — лічаць прадстаўнікі апазіцыі.

*"Мы дасылаем супольны законапраект змен у выбарчае заканадаўства суб'ектам з правам адпаведнай ініцыятывы, хаця спадзяваў, што нашы прапановы будуць улічаны, мала. Бо адмова ўлад ад татальнага кантролю і фальсіфікацый выбарчага працэсу на ўсіх яго этапах прывядзе да атрымання нарэшце рэальных вынікаў выбараў",* — заявіў намеснік старшыні руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч. — *І па цяперашнім Выбарчым кодэксе, у прынцыпе, можна было б праводзіць дэмакратычныя выбары. Аднак усё натыкаецца на практыку правапрымянення. Нашы папраўкі закліканы мінімізаваць магчымасць парушэнняў выбарчага заканадаўства і маніпуляцый ім. У выпадку іх прыняцця нахабна фальсіфікаваць выбары не атрымаецца".*

**Алена НОВІКАВА.**

**РЭБУС**

## *Інтэрнэтная «бомба»*

Пра лёс былога кіраўніка спраў прэзідэнта Мікалая Корбута, вызваленага 18 студзеня ад займаемай пасады, да гэтага тыдня нічога не было вядома. А зараз у інтэрнэце грымнула "сенсацыя"... Маўляў, былы "загадчык гаспадаркі" прэзідэнта знаходзіцца пад хатнім арыштам.

Кампетэнтныя структуры навіну не пацвярджаюць, але і не абвяргаюць. Сам Мікалай Корбут размаўляць з журналістамі адмаўляецца, хаця часам здымае тэлефонную слухаўку па хатнім нумары. Праўда, для некаторых фігурантаў крымінальных спраў знаходжанне пад хатнім арыштам не азначае абмежавання па тэлефонных размовах.

У Следчым камітэце сціпла адказалі, што ў іх няма крымінальнай справы супраць былога высокапастаўленага чыноўніка. Але гэта таксама не азначае, што такой справы ўвогуле няма, бо праверку можа праводзіць хто заўгодна. Часцей за ўсё ў падобных выпадках гэта робіць Камітэт дзяржаўнай бяспекі.

Мы старанна спрабавалі датэлефанавацца з пытаннямі да прэс-службы КДБ. Але падобна на тое, што яна пераўтварылася ў нейкую міфічную з'яву — тэлефон ёсць, але ён адказвае ў нейкіх выключных выпадках. Прычым няважна, што кіраўнік аддзела Аляксандр Антановіч, як правіла, адказвае, што ніякіх каментарыяў не будзе. У выпадку з Корбутам нават дазваніцца да Антановіча, каб пачуць традыцыйную адмову сказаць хоць што-небудзь, было проста немагчыма.

Тым часам глебу да развагаў і домыслаў даў сам Аляксандр Лукашэнка. Учора падчас нарады па пытаннях дзейнасці Кіраўніцтва спраў прэзідэнта ён заявіў, што яго не задавальняюць вынікі, дасягнутыя гэтай арганізацыяй і арганізацыямі, што ёй падпарадкоўваюцца. Прозвішча Мікалая Корбута кіраўнік краіны не назваў, але сказаў: "Адбываюцца невытлумачальныя (я гэта мякка кажу) маніпуляцыі з эканамічнымі паказчыкамі. Больш за тое, выкрываюцца прамыя фінансавыя парушэнні, якія робяцца прадметам разгляду з пазіцыі ўжо Крымінальнага кодэкса. Невытлумачальна, як гэта стала магчыма ў дадзенай структуры".

З гэтай прамовы зразумела адно — хмары над Кіраўніцтвам спраў прэзідэнта ходзяць. Але над кім канкрэтна?..

**Любоў ЛУНЁВА.**

**НУ І НУ!**

## *Як сабака...*

Клетка на сцэне, і ў ёй чалавек, які не з'яўляецца ні забойцам, ні буйным, ні нават ужо асуджаным, зноў вывела беларускую тэму на сусветны ўзровень. Кадры з суда над мадэльерам Аляксандрам Варламавым абышлі многія замежныя СМІ. Журналісты не абмяркоўваюць, вінаваты Варламаў ці не вінаваты. Іх зацікавіла іншае — чаму ён, як сабака, сядзіць у клетцы?

Хто сочыць за развіццём так званай справы Брэйвіка — нарвежца, які забіў 77 чалавек, — бачыць, што на судзе гэтая пачвара сядзіць не ў клетцы. А ў нас клетка стала звычайным атрыбутам і на "крывавых працэсах", і пры разглядзе звычайных эканамічных спраў. Хаця так было далёка не заўсёды. У СССР, да прыкладу, клетак не было. Упершыню яна з'явілася падчас суда над Чыкацілам.

Але навошта клеткі пры разглядзе звычайных спраў? Навошта прыніжаць людзей, нізводзіць іх да стану жывёл, хаця яны яшчэ нават не прызнаны асуджанымі? Мы неяк звыкліся, а нармальныя людзі гэтага зразумець не могуць.

Міністру юстыцыі Беларусі Алегу Сліжэўскаму прыйшлося адказваць на непрыемнае пытанне. Падобна на тое, што як юрыст краіны, у якой фармальна не адменены ні прынцып гуманізму, ні прэзумпцыя невінаватасці, ён разумее дзікасць сітуацыі.

*"Гэтае пытанне патрабуе дадатковай прапрацоўкі, і варыянты, мабыць, трэба шукаць",* — заявіў спадар Сліжэўскі на прэс-канферэнцыі ў чацвер.

**Алена ДАВЫДАВА.**

**ПЯРЭПАЛАХ**

## *Аўрал у Баранавічах*

У Баранавічах рыхтуюцца да прыезду Аляксандра Лукашэнкі. Асабліва шчыруюць ля мясцовага вытворчага бавоўнянага аб'яднання: у спешным парадку зафарбоўваюць надпісы на бачных з вуліцы гаражах, малююць нумары на бліжэйшых да аб'яднання дамах, змяняюць дарожныя знакі і чысцяць ад снегу дарожкі...

"Лукашэнка ж прыляціць! — кажуць рабочыя. — Рыхтуем пляцоўку..."

Як паведамляе мясцовая газета Intex-press, у горадзе ўпарта цыркулююць чуткі, што "галоўнага кантралёра" тут чакаюць 12 лютага.

**РЭГІСТРАТУРА**



*Уладзімір ГАРБАЧОЎ,*
*дырэктар медыцынскага цэнтра «ЛОДЭ»:*

# «Любыя пачынанні нас не палохаюць...»

Міністр аховы здароўя **Васіль Жарко** заявіў, што для разгрузкі ўрачоў у паліклініках Міністэрства аховы здароўя гатова дазволіць прыватным медцэнтрам выпісваць бальнічныя лісты. "Пытанне аб выдачы недзяржаўнымі арганізацыямі аховы здароўя лісткоў часовай непрацаздольнасці практычна вырашана", — паведаміў ён на нядаўняй калегіі Міністэрства аховы здароўя.

Як самі прыватнікі паставіліся да такой перспектывы? Дырэктар аўтарытэтнага прыватнага медыцынскага цэнтра "ЛОДЭ" **Уладзімір Гарбачоў** заявіў, што іх цэнтр гатовы ўзяць на сябе частку турбот па выдачы бальнічных лістоў і, калі такое рашэнне будзе прынята, "ЛОДЭ" падасць дакументы на атрыманне адпаведнай ліцэнзіі і будзе аказваць падобную паслугу насельніцтву.

— *Для прыватнай медыцыны гэта вялікая перавага, але і вялікая адказнасць,* — пракаментаваў магчымыя новаўвядзенні Уладзімір Гарбачоў. — *Асноўнае — гэта камфорт для пацыента. Сапраўды, людзі часта звяртаюцца да нас і просяць выдаць лісты непрацаздольнасці. Пакуль у нас такога права няма. Калі з'явіцца, то для вялікай часткі пацыентаў гэта будзе вельмі зручна. Акрамя таго, у нашым цэнтры існуе хірургічнае аддзяленне, дзе праводзяць аперацыі практолагі, гінеколагі, пластычныя хірургі. На сённяшні дзень пасля аперацыі ў нашым цэнтры пацыент павінен адкрываць бальнічны ў паліклініцы, а пасля новаўвядзення сітуацыя значна спросціцца. І для нас, і для пацыентаў. Гэта таксама плюс.*

Аднак, заўважае дырэктар "ЛОДЭ", перад кожным знакавым рашэннем узнікае шэраг пытанняў. Перш за ўсё тэхнічнага плана.

— *Па-першае, пытанні адкрыцця і закрыцця бальнічных,* — кажа Уладзімір Уладзіміравіч. — *Напрыклад, пацыент адкрые бальнічны ліст, а затым адмовіцца прыходзіць, каб яго закрыць, так як кожнае наведванне трэба аплачваць.*

*Па-другое, для ўрача гэта таксама вялікая адказнасць, так як часам яны бачаць пацыента першы раз, не маюць даных аб гісторыі яго хваробы. Іншая справа, калі гаворка ідзе пра тых пацыентаў, якія абслугоўваюцца ў нашым цэнтры гадамі, і мы ведаем дасканала гісторыю хваробы чалавека. Сітуацыя істотна спрасцілася б, калі б у Мінску існавала адзіная камп'ютарная база пацыентаў ці хаця б лісткоў непрацаздольнасці, даступная медустановам усіх форм уласнасці. Хачу падкрэсліць: у нашым цэнтры працуюць высокакваліфікаваныя ўрачы, таму некаторыя цяжкасці, якія нязменна суправаджаюць любое пачынанне, нас не палохаюць. Камфорт пацыента і гарантыя якасці для нас вышэй за ўсё.*

Дарэчы, яшчэ ў мінулым годзе старшыня камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама **Віктар Сірэнка** заявіў, што ў бліжэйшыя 2—3 гады ўстановы аховы здароўя сталіцы ўвойдуць у адзіную інфармацыйную электронную базу. Сетка звяжа паміж сабой усе паліклінікі, бальніцы і іншыя суб'екты сферы аховы здароўя і адным з раздзелаў стане база даных, дзе будуць захоўвацца электронныя карты пацыентаў. Да гэтага часу, па словах Віктара Сірэнкі, ва ўсіх стацыянарах і паліклініках Мінска амбулаторныя карты пацыентаў будуць запаўняцца ў электронным выглядзе.

Перавага такой базы відавочная: на прыёме ўрачу ў любой медустанове дастаткова будзе набраць прозвішча, ініцыялы і іншыя звесткі аб пацыенце, і на экране камп'ютара з'явіцца вычарпальная інфармацыя з данымі дыягнастычных абследаванняў. Хочацца верыць, што да гэтай базы доступ будзе і ў прыватных цэнтраў. Хаця б тых, якія возьмуць на сябе адказнасць выдаваць бальнічныя лісты.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

РАЗБОРКІ

# «Самы хрысціянскі з кандыдатаў» пісаў даносы?

Мікалай Статкевіч зноў звярнуўся да падзей двухгадовай даўніны, падчас і пасля прэзідэнцкіх выбараў. Лісты былога кандыдата ў прэзідэнты, які зараз знаходзіцца ў Магілёўскай турме, абнародаваў сайт палітыка. На гэты раз у іх ёсць абвінавачанні проста персанальныя.

"...чаго каштуюць толькі паводзіны самага "хрысціянскага" кандыдата. У маёй судовай справе было тры даносы ад яго — на мяне (зроблены да выбараў) , на Дзіму Усса і на ўсіх удзельнікаў Плошчы (зробленыя падчас следства)", — напісаў Статкевіч.

Няцяжка здагадацца, што маецца на ўвазе Віталь Рымашэўскі, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя". Проста не было больш адкрыта хрысціянскіх кандыдатаў на тых выбарах.

Дарэчы, пра даносы Статкевіч ужо ўзгадваў у адным з папярэдніх лістоў, але тады ніяк не намякнуў на тое, каго з кандыдатаў ён мае на ўвазе. Але ўжо тады тэма актыўна абмяркоўвалася сярод палітыкаў. Віталь Рымашэўскі казаў, што пытанні, узнятыя Статкевічам, важныя і актуальныя. І што неабходна шчырая, сур'ёзная размова пасля вызвалення ўсіх палітвязняў.

Вось даслоўная цытата Рымашэўскага, яго каментарый да першага скандальнага ліста Мікалая Статкевіча. *"Асноўнае пытанне, якое задае Статкевіч, — трэба сур'ёзна абмеркаваць тое, што адбылося на Плошчы, пасля Плошчы і напярэдадні. Няма нічога таемнага, што не стала б вядомым. Мне вядомыя некаторыя рэчы з паказанняў, з якімі я знаёміўся, з матэрыяламі іншых кандыдатаў, якія трапілі дзіўным чынам у маю справу. Многія рэчы мусілі быць агучаныя ўжо даўно. Але з-за таго, што людзі знаходзяцца за кратамі, іх агучваць немагчыма. Але калі высноў не рабіць, то падзеі будуць паўтарацца",* — сказаў Рымашэўскі

Зараз, калі намёк Статкевіча стаў зусім празрыстым, Віталь Рымашэўскі ўсё адмаўляе. І спасылаецца на тое, што лісты Статкевіча праходзяць цэнзуру.

З лістоў, дарэчы, бачна, што да гэтай часткі цэнзура рукі не прыклала. Такім чынам, што Статкевіч хацеў напісаць — тое і напісаў. І неяк "не так" яго зразумець немагчыма.

Можна прыпомніць і тое, што яшчэ адзін кандыдат у прэзідэнты — Дзмітрый Усс — не аднойчы падкрэсліваў у інтэрв'ю, што з Рымашэўскім ён не кантактуе. Але з прамымі абвінавачваннямі не выступаў.

Зараз Дзмітрый Усс нарэшце таксама выказаўся больш канкрэтна.

*— Я лічу, што Статкевічу такую інфармацыю падкінулі спецслужбы. Чаму менавіта супраць Рымашэўскага? Таму што ён ім стаў нязручны з-за кампаніі байкоту выбараў. Хоць па Рымашэўскаму і ў мяне былі пытанні. Я ведаю, што і ў маёй справе былі яго негатыўныя паказанні. Але, думаю, што калі ён трапіў у гэтую сістэму, то проста разгубіўся. І яму ўмела "дапамаглі" даць негатыўныя паказанні — такія, каб іншыя даўжэй заставаліся за кратамі. Але я не думаю, што Рымашэўскі сеў і наўмысна напісаў данос,* — заявіў Усс "Народнай Волі".

Мы звярнуліся па каментарый і да кіраўніка выбарчага штаба Статкевіча Сяргея Марцэлева, які таксама адсядзеў у СІЗА КДБ і трапіў пад крымінальную справу. Ён расказаў: "У маёй і Паўла Севярынца крымінальнай справе (яна ў нас чамусьці агульная) былі двухсэнсоўныя паказанні аднаго з лідараў БХД, але не Рымашэўскага. Гэтыя паказанні дазволілі следчай групе падвесці тое, што адбылося, пад трактоўку *"здзейсненa групай асоб па папярэдняй змове"*. Аб ролі Рымашэўскага я даведаўся ад Дзмітрыя Усса 17 мая 2011 года, сустрэўшы яго на судовым працэсе над Мікалаем. Пасля факты былі пацверджаны людзьмі, якія знаёміліся з крымінальнай справай Статкевіча. Так што гэта не адарваныя рэфлексіі чалавека ў зняволенні, а сухія факты. Што тычыцца *"самага хрысціянскага кандыдата"*, то я далёкі ад пракурорскага апломбу і магу толькі сказаць: "Бог яму суддзя".

**Любоў ЛУНЁВА.**

ТЫМ ЧАСАМ

# «З разуменнем стаўлюся да любога Вашага альбо прыпісанага Вам выказвання»

*Віталь Рымашэўскі звярнуўся да Мікалая Статкевіча з лістом у адказ.*

Шаноўны Мікола!

Паколькі ў адным з лістоў ад вашага імя некаторыя выказванні магчыма інтэрпрэтаваць як звернутыя да мяне, лічу неабходным звярнуцца з адкрытым лістом да Вас, спадзеючыся, што такім чынам Вы здолееце азнаёміцца з яго зместам.

Найперш вымушаны выбачыцца за тое, што сваімі дзеяннямі і выказваннямі ў ваш бок 24 лістапада 2010 года падчас супольнага правядзення мітынгу і шэсця — так званай "рэпетыцыі Плошчы" — даў падставы для крыўдаў. Таксама за тое, што перад сустрэчай кандыдатаў 9 снежня 2010 года ў офісе БХД публічна абразіў Вас асабіста, абвінаваціўшы ў развале Беларускага згуртавання вайскоўцаў, і шматлікія правакацыі са зводам людзей з масавых акцый БНФ 90-х гадоў і арганізацый сутычак з міліцыяй, бяру назад. Таксама, як публічна іх прамовіў, публічна ж прашу за гэта прабачэння. Гэта ўсё, у чым лічу сябе перад Вамі вінаватым. Спадзяюся, што надалей гэтыя непаразуменні не стануць падставай для псавання адносін паміж намі.

Разумею, што Вы зараз знаходзіцеся ў вельмі цяжкім становішчы. Ведаю таксама, што, будучы сумленным чалавекам і маючы поўную свабоду, кажучы пра падзеі 2010 года і мой у іх удзел, Вы казалі б не толькі пра тое, што было мною сказана альбо прыпісана мне словамі супрацоўнікаў КДБ ці МУС, але і пра тое, пра што я вымушаны маўчаць. Маўчаць і падчас допытаў у КДБ, і пры размовах з журналістамі і дыпламатамі. Што і працягну рабіць, незалежна ад Вашага стаўлення да мяне, насуперак жаданню ўсіх тых, хто выбарачна прапускае Вашы лісты на волю (разлічваючы на маю пэўную рэакцыю ў адказ, гэткія "псіхолагі" мяркуюць пра іншых па сабе).

Што тычыцца падзей 19 снежня, то мая інтэрпрэтацыя падзей, выкладзеная ў інтэрв'ю журналістам за некалькі хвілін да майго затрымання, была падтрымана ўсімі апазіцыйнымі сіламі і адпавядала той лініі абароны, якую пазней выкарыстоўвалі адвакаты і праваабаронцы ў справе ўсіх палітвязняў і Вас асабіста.

Гэтая інтэрпрэтацыя з майго боку была свядомым кампрамісным крокам. Такога апісання падзей вымагалі абставіны, у першую чаргу дзеля таго, каб абараніць тых людзей, каторых мы з Вамі заклікалі прыйсці 19 снежня на Плошчу. Пры гэтым лічу, што няпраўда (скажэнне фактаў), да таго ж выказаная публічна, патрабуе выпраўлення, што і будзе зроблена па Вашым вызваленні (мяркую, найперш Вамі асабіста).

Згодны з тым, што трэба сур'ёзна абмеркаваць тое, што адбылося на Плошчы, пасля Плошчы і напярэдадні. Няма нічога таемнага, што не стала б вядомым. З-за таго, што людзі, асуджаныя за падзеі 19 снежня, дагэтуль знаходзяцца за кратамі, многія рэчы агучваць немагчыма, бо гэта нашкодзіць самім палітвязням. Аднак, калі высноў не рабіць, то падзеі будуць паўтарацца.

Не лічу свае дзеянні і паводзіны дасканалымі ці бездакорнымі. Таму гатовы прымаць усялякую крытыку. Пры гэтым перакананы, што, нягледзячы на любыя магчымыя падтасоўкі, мае паказанні падчас следства не маглі стаць юрыдычнай падставай для абвінавачвання і вынясення Вам прысуду. Да Вашага вызвалення ўсе скандальныя матэрыялы ў СМІ на гэты конт лічу не болей чым пустымі спекуляцыямі на тэму Плошчы.

Вы таксама ведаеце, што за спінамі людзей, каторых мы з Вамі заклікалі на Плошчу, абяцаючы ім мірную, негвалтоўную акцыю пратэсту, я не хаваўся, усе дамовы і ўсе прамоўленыя абяцанні выконваў да канца. Усе мае дзеянні сыходзілі выключна з адчування асабістай адказнасці і шкадавання да людзей, якія былі бессэнсоўна кінуты правакатарамі пад дубінкі АМАПа і пад наступную крымінальную адказнасць без аніякага шанцу насамрэч "захапіць" Дом урада.

Запэўніваю Вас, што дагэтуль нішто не прымусіла мяне адмовіцца ад супрацьстаяння планам рэжыму — ці то ў пытанні легітымацыі псеўдавыбараў, ці то ў пытанні фінансавай падтрымкі рэжыму Захадам, пытанні непрызнання наяўнасці палітвязняў, ці любым іншым...

Неаднаразова падчас допытаў сябраў і кіраўнікоў БХД былі прымітыўныя спробы беспадстаўнай дыскрэдытацыі і распальвання варожасці паміж сустаршынямі і шараговымі сябрамі БХД. Ведаю, што супрацоўнікі рэжыму выкарыстоўваюць розныя метады для распальвання сварак у асяродку апазіцыі і пераводу дыскусій з тэмы абмеркавання дзеянняў, накіраваных супраць рэжыму, на высвятленне асабістых адносін паміж апазіцыянерамі. Да гэткіх прымітыўных планаў стаўлюся спакойна.

Ведаю, якія метады падчас зняволення супраць мяне і супраць іншых асуджаных па справе 19 снежня выкарыстоўвалі спецслужбы. Можна толькі здагадвацца пра тыя бесчалавечныя ўмовы, у якіх зараз знаходзіцеся Вы. Таму з разуменнем стаўлюся да любога Вашага альбо прыпісанага Вам выказвання.

**З павагай —**

**Віталь РЫМАШЭЎСКІ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Цалкам пакрыў шкоду*

*Спынена расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да былога кіраўніка Полацка*

Уладзімір Тачыла, а таксама шэраг службовых асоб горада і раёна пад суд не трапяць.

Аб гэтым паведаміў журналістам начальнік аддзела працэсуальнага кантролю за расследаваннем злачынстваў аб карупцыі і супраць інтарэсаў службы Галоўнага ўпраўлення працэсуальнага кантролю Следчага камітэта Беларусі **Дзмітрый Вараб'ёў.**

*"Завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да былога старшыні Полацкага гарвыканкама Тачылы, былога старшыні Полацкага раённага выканкама Палідаўца, а таксама яшчэ трох службовых асоб. Ім было прад'яўлена абвінавачанне па ч.3 арт.424 і ч.2 арт.344 КК Беларусі. Яны абвінавачваліся ў тым, што планавалі будаўніцтва прыватных дамоў у ландшафтнай зоне Полацкага сабора",* — адзначыў Дзмітрый Вараб'ёў.

Ён распавёў, што абвінавачаныя цалкам пакрылі прычыненую шкоду, а таксама напісалі прашэнне аб вызваленні іх ад крымінальнай адказнасці і спыненні расследавання на імя прэзідэнта Беларусі. Іх прашэнне было задаволена.

Нагадаем, што за праваабаронцу Алеся Бяляцкага, які зараз знаходзіцца ў Бабруйскай калоніі, людзі па ўсёй краіне збіралі грошы і пералічылі дзяржаве тую суму, якую нібыта Алесь недаплаціў падаткамі. Тым не менш яго ад пакарання не вызвалілі. Але і прашэння аб памілаванні вядомы праваабаронца не пісаў.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ПАЛІТЫКА

# Беларускае МЗС насмяшыла і здзівіла

*Міністэрства замежных спраў Беларусі заклапацілася сітуацыяй з правамі чалавека ў свеце, а калі дакладней — у ЗША, Еўрасаюзе, Канадзе, Нарвегіі. І, зразумела, знайшло шмат фактаў парушэнняў.*

Але прынцып *"мы будзем біць вас вашай жа зброяй"* выклікаў на Захадзе, мякка кажучы, здзіўленне.

Часопіс Foreign Policy знайшоў у беларускім дакладзе шэраг недакладнасцяў і памылак. У прыватнасці, як адзначае выданне, блок, прысвечаны ЗША, з'яўляецца *"цікавым чытвом, дзе ўсё пастаўлена з ног на галаву".* Так, у дакладзе прыведзены шэраг фактаў, увагу да якіх прыцягвалі самі актывісты ў ЗША. Напрыклад, гэта тычыцца разгону акцый у рамках руху "Акупіруй Уол-Стрыт" і леташняй антыНАТАўскай дэманстрацыі ў Чыкага. Але таксама ў дакладзе "ёсць і шэраг дзіўных недакладнасцяў". Напрыклад, няправільна названа імя кандыдата ад партыі "Зялёных" на апошніх прэзідэнцкіх выбарах у ЗША Джыл Стайн. Больш таго, у дакладзе беларускага МЗС яна фігуруе як мужчына.

*"Расплывістыя фармулёўкі даклада таксама намякаюць, што ўрад ЗША нібыта аплаціў паказ на пакістанскім тэлебачанні фільма "Нявіннасць мусульман",* — гаворыцца ў артыкуле. Хаця, наадварот, ЗША аплацілі рэкламныя ролікі, якія асуджаюць гэты фільм.

Foreign Policy таксама называе мудрагелістай трактоўку беларускага МЗС інфармацыі пра петыцыю некаторых штатаў у рамках руху за аддзяленне ад ЗША і падкрэслівае, што *"калі Тэхас калі-небудзь аддзеліцца, Беларусь зможа першай прызнаць яго незалежнасць".*

Міністэрства замежных спраў Славакіі выказала адкрытае здзіўленне беларускім дакладам, пра што гаворыцца ў заяве, размешчанай на сайце славацкага знешнепалітычнага ведамства. *"МЗС Славакіі здзіўлены, што такую справаздачу апублікавала Беларусь — адзіная еўрапейская краіна, якая ўсё яшчэ не мае паўнапраўнага сяброўства ў Савеце Еўропы з прычыны даўніх і сістэматычных парушэнняў правоў уласных грамадзян,* — гаворыцца ў заяве. — *Мы рашуча асуджаем гэтую ініцыятыву, якая з'яўляецца спробай адцягнуць увагу ад патрабаванняў міжнароднай дэмакратычнай супольнасці вызваліць палітвязняў і паважаць палітычныя і грамадзянскія правы".*

Сапраўды, беларускі МЗС ніякіх адкрыццяў у сваім дакладзе не зрабіў (хіба што назваў Джыл Стайн мужчынам). Факты парушэння правоў чалавека ёсць ва ўсім свеце. Але адначасова ва ўсім цывілізаваным свеце ёсць і механізмы абароны гэтых правоў, прыцягненне ўвагі да прыкрых прэцэдэнтаў, кампенсацыі людзям, якіх дзяржава пакрыўдзіла незаконна, маральных і матэрыяльных страт. Ці можа наша краіна гэтым пахваліцца? Чаму ў сваім воку мы не бачым бервяно?

**Алег СНОЎ.**

МІЖ ІНШЫМ

## *Што рабіць з Макеем?*

Міністр замежных спраў, якому забаронены ўезд у краіны, якія вызначаюць сусветную палітыку, гэта такі ж нонсэнс, як нямокрая вада. Але менавіта такая сітуацыя склалася ў Беларусі. Кіраўнік МЗС Уладзімір Макей, як вядома, неўязны на Захад. Зараз у Еўрасаюзе абмяркоўваюць, што з гэтым рабіць.

Гэтымі днямі ў Брусэлі праходзіць саміт Еўрапейскага Саюза, прычым у папярэднім парадку дня беларускае пытанне не значылася. Аднак еўрапарламентарый ад Літвы Юстас Палецкіс паведаміў, што еўрачыноўнікі могуць узняць пытанне пра ўязную візу на тэрыторыю ЕС для Уладзіміра Макея. Маўляў, менавіта з кіраўніком МЗС трэба найперш размаўляць пра дэмакратызацыю Беларусі.

Аднак ёсць і супрацьлеглая думка: выкрэсліванне Макея з "чорнага спісу" будзе пададзена Аляксандрам Лукашэнкам як перамога беларускага рэжыму.

Апошнім часам з'явіўся трэці варыянт, які разглядаюць замежныя дыпламаты, што працуюць у Беларусі. З Макея могуць зняць візавыя абмежаванні толькі на паўгода. Калі ў Беларусі адбудуцца станоўчыя зрухі, то візавую забарону можна будзе адмяніць цалкам. У іншым выпадку Макею зноў вернуць статус неўязнога ў Еўрасаюз.

Ёсць і чацвёрты варыянт: Уладзіміра Макея ўвогуле не згадаюць у Брусэлі. І ўсё застанецца так, як сёння.

АФІЦЫЙНА

## *У дзяржавы грошай для настаўнікаў няма*

Намеснік старшыні ўрада Анатоль Тозік, выступаючы на калегіі Міністэрства адукацыі, заклікаў шукаць рэсурсы для павелічэння зарплаты настаўнікам унутры сістэмы адукацыі. Гэта азначае, што дзяржава грошы не дасць.

Паводле слоў віцэ-прэм'ера, ён яшчэ можа зразумець, калі ў сельскай мясцовасці адзін вучань у класе вучыцца ў малодшай школе, але не разумее, чаму сем-восем чалавек у класе вучацца ў старэйшай школе. *"Гэта дарослыя людзі. Яны што, не могуць паехаць у школу ў райцэнтр на аўтобусе?"* — сказаў віцэ-прэм'ер.

Гаворачы аб сістэме вячэрніх школ, ён падкрэсліў, што *"зараз не пасляваенны перыяд, а гэтыя школы для тых, хто не атрымаў адукацыю ў адпаведным узросце".* На яго думку, сістэма вячэрніх школ павінна спыніць існаванне, а замест яе павінны дзейнічаць кансультацыйныя класы ў звычайных школах.

Гаворачы аб міжшкольных вучэбна-вытворчых камбінатах працоўнага навучання і прафесійнай арыентацыі, Анатоль Тозік назваў іх анахранізмам і сказаў, што *"яны не патрэбныя".*

ДА ВЕДАМА

Паводле звестак Мінадукацыі, у 2012 годзе сярэдняя заработная плата па галіне склала 2 мільёны 769 тысяч рублёў (332 долары ЗША). Сярэднямесячная зарплата педагагічных работнікаў (акрамя прафесарска-выкладчыцкага складу) склала 3 мільёны 59 тысяч рублёў, настаўнікаў — 3 мільёны 279 тысяч. Самая высокая сярэдняя зарплата педагагічных работнікаў была ў Мінскай вобласці — 3 мільёны 245 тысяч, самая нізкая — у Гродзенскай — 2 мільёны 882 тысячы.

У той жа час, паводле звестак Мінадукацыі, сярэдняя зарплата настаўнікаў у іншых краінах складае:
— у Расіі — 717 долараў,
— у Казахстане — 420 долараў,
— у Германіі — 3,9 тысячы долараў,
— у Фінляндыі — 2,6 тысячы долараў,
— у Францыі — 2,2 тысячы долараў,
— у Англіі — 2,5 тысячы долараў.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *А што ў адказ?*

***Прачытала ў газеце "Народная Воля", што еўрадэпутат Марэк Мігальскі дабіваецца сустрэчы ў турмах з палітвязнямі Мікалаем Статкевічам і Дзмітрыем Дашкевічам і даслаў адпаведныя запыты ў наша Міністэрства замежных спраў. Які ж адказ?***

**Марыя Васюковіч, Гомель.**

Прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Андрэй Савіных паведаміў: *"Мы перадалі гэты запыт у кампетэнтныя органы, адказ будуць даваць яны".*Наконт таго, якія гэта органы і калі можна чакаць адказу на запыт, Андрэй Савіных нічога патлумачыць не здолеў.

## *Мінімальны парог тэставага бала на ЦТ павысяць у два-тры разы?*

Пра гэта распавёў журналістам перад пачаткам пасяджэння выніковай калегіі Міністэрства адукацыі кіраўнік ведамства Сяргей Маскевіч.

Так, па прадметах "расійская мова", "беларуская мова", "матэматыка", "фізіка", "хімія", "біялогія" плануецца ўстанавіць мінімальнае значэнне 15 балаў; па прадметах "гісторыя Беларусі", "сусветная гісторыя найноўшага часу", "грамадазнаўства", "геаграфія", "замежная мова" — 20 балаў.

Нагадаем, што ў мінулым годзе мінімальны парог складаў 7 балаў.

Балы, атрыманыя абітурыентамі, якія не дацягнуць да гэтых значэнняў, будуць лічыцца непраходнымі для прыёмнай камісіі ВНУ. Пры гэтым такія абітурыенты змогуць скарыстацца магчымасцю паступіць у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, дадаў міністр.

РЭЙТЫНГ

## *Беларусь — другая краіна Еўропы па колькасці разводаў*

*Больш за палову шлюбаў у Беларусі распадаецца. Гэты сумны факт вывеў нашу краіну на другое месца ў Еўропе па колькасці разводаў. Як і ў мінулым годзе, у жаданні разыходзіцца беларусы саступаюць толькі расіянам.*

Калі вы збіраецеся пабрацца шлюбам, падумайце спачатку аб тым, што здараецца з большасцю беларусаў, якія прынялі калісьці гэткае ж рашэнне. Калі верыць Нацыянальнаму статыстычнаму камітэту, на кожныя два шлюбы прыходзілася ў мінулым годзе па адным разводзе.

У лічбах гэтая сітуацыя выглядала прыкладна так: у 2012 годзе беларусы сыгралі 76 тысяч 245 вяселляў. І "арганізавалі" 39 тысяч разводаў. На тысячу шлюбаў атрымалася 512 разводаў.

Калі параўнаць нашыя "вясельныя" поспехі з іншымі краінамі Еўропы, то робіцца зусім сумна. Бо і ў 2010-м, і ў 2011 годзе наша краіна займала другое месца ў Еўропе па колькасці разводаў на 1000 жыхароў. Саступалі мы толькі Расіі.

ВЫСТАВА

# Кнігі, за якія можна памерці...

*Карэспандэнтка "Народнай Волі" пабывала на адкрыцці Мінскай міжнароднай кніжнай выставы-кірмашу, пабачыла выданні, якія каштуюць мільёны і тамы памерам з матылька.*

### Вакол свету за 80 кніг

Фішкай сёлетняй выставы сталі стэнды шматлікіх замежных гасцей. Бібліяфілы могуць здзейсніць падарожжа па літаратурным свеце, бо свае выданні прадставілі пасольствы Малдовы, Украіны, Арменіі, Азербайджана, Германіі, Польшчы, Літвы, Францыі, ЗША, Кітая, Індыі, Венесуэлы і іншых краін. Прычым кожны стэнд аформлены па-свойму. Секцыя літаратуры з Ірана нагадвае мінімузей з багатымі вітрынамі і па-мастацку аформленымі подыумамі. Тут асаблівая атмасфера — іранскае пасольства прадстаўляе альбомы мініяцюр знакамітага аўтара **Махмуда Фаршчыяна**, альманахі сучаснага жывапісу, архітэктуры. Усё проста неверагоднай, шчымлівай прыгажосці. Аздабляюць шыкоўныя тамы керамічныя вырабы майстроў Ірана. На гэты стэнд проста прыемна глядзець, тым больш што некаторыя экспанаты не для масавага пакупніка — у іх сапраўды музейныя кошты. Ёсць альбомы, цэны на якія дасягаюць некалькіх соцень долараў.

Вельмі вялікі стэнд прадставілі выдавецтвы Расіі, але, падаецца, для іх быў прынцыповы маштаб, а не сутнасць. Больш месца адведзена пад імправізаваную канферэнц-залу, чым пад дэманстрацыю кніжных навінак.

Цікавы каляровы стэнд арганізавалі французы. Іх пляцоўка была выканана ў стылі парыжскай кавярні. Праўда, кніжак, на жаль, прадстаўлена не так і шмат.

### Дзюма і «Галіяфы»

На выставе можна знайсці амаль любое выданне, хіба што коміксаў няма. Асабліва шмат сёлета дзіцячай літаратуры. Чытанне для малых прадстаўлена ва ўсіх магчымых і немагчымых відах. Прычым прапануюць творы і сучасных аўтараў, і класікаў кшталту **Аляксандра Дзюма**. Ёсць нават дзіцячая рэлігійная літаратура! Праўда, таннымі большасць выданняў не назавеш. Хаця расійскія і ўкраінскія ўдзельнікі выставы прапануюць скідкі.

*"Скажыце, тры тысячы — гэта шмат ці не?* — запыталася прадстаўніца расійскага выдавецтва Live book. — *Вось не ведаю, ці магу я прабачыць пакупніку гэту суму. Гэта пакутніцтва нейкае — разбірацца ў беларускіх грашах".*

Некаторыя гандляры пішуць кошты ў зручнай валюце, а побач — курс абмену да беларускага рубля. Напрыклад, адзін еўра канвертуюць у 11 тысяч роўна.

Затое на стэндах айчынных выдавецтваў з курсамі валют не ўзнікае ніякіх праблем. Сваю прадукцыю прадстаўляюць прыватнікі "Логвінаў", "Рэгістр", "Галіяфы". Дарэчы, апошнія запланавалі шмат цікавых прэзентацый, з раскладам якіх можна пазнаёміцца ў інтэрнэце. Пісьменнік **Зміцер Вішнёў** вельмі раіў "Народнай Волі" звярнуць увагу на прэзентацыю серыі навукова-папулярных выданняў па гісторыі Беларусі **Мікалая Плавінскага**, якая адбудзецца сёння, у пятніцу 8 лютага, у 16 гадзін.

Да 10 лютага выставачны павільён "БелЭкспа" можа наведаць любы аматар літаратуры і даць уласную ацэнку выставе. Падчас адкрыцця ад пажылога чалавека, што разглядаў шыкоўныя каляровыя выданні дзіцячай энцыклапедыі, давялося пачуць такія словы:

*"Калі б у дзяцінстве мне падарылі такую кнігу!.. Божа, я мог бы памерці ад шчасця!.."*



ДАРЭЧЫ

## *Кніжкі-крошкі і Гейдар Аліеў*

*Вельмі каларытным і цікавым атрымаўся стэнд у выдаўцоў з Азербайджана. Тут свае хітрыкі — азербайджанцы прываблівалі наведвальнікаў незвычайнымі кніжкамі-крошкамі.*

Мініяцюрныя выданні прадстаўляе стваральнік Бакінскага музея мініяцюрнай кнігі, старшыня Праўлення таварыства "Кніга" Азербайджанскай Рэспублікі **Зарыфа Салахава**. Спецыяльна да выставы ў Мінску яна стварыла 50 унікальных маленькіх копій першага выдання кніжкі **Янкі Купалы** "Жалейка".

*"Жалейку" спецыяльна да выставы замовілі прадстаўнікі азербайджанскай дыяспары ў Беларусі*, — распавяла "Народнай Волі" Зарыфа Салахава. — *У выніку атрымаўся двухтомнік, які цалкам (за выключэннем памеру) паўтарае кнігу, што выйшла ў пецярбургскай друкарні ў 1908 годзе. Праўда, тады "Жалейка" так і не пабачыла свет. Кніга не прайшла цэнзуру, і амаль увесь наклад быў знішчаны. На шчасце, захавалася некалькі копій, па якіх мы і зрабілі мініяцюрную версію "Жалейкі".*

Слухаць распаведы Зарыфы ханым так жа цікава, як і разглядаць мініяцюрную бібліятэку яе аўтарства. Спадарыня Салахава валодае самай вялікай прыватнай калекцыяй невялічкіх кніжачак у свеце. На Мінскай кніжнай выставе яна прэзентавала не толькі "Жалейку". Цвіком праграмы стала ўнікальнае выданне ў гонар 90-годдзя **Гейдара Аліева**. Пад міні-вокладкай сабраны некаторыя яго выступленні, а побач прадстаўлены медаль з яго партрэтам. Дарэчы, Зарыфа ханым і сама мае медаль. У мінулым годзе беларускі пасол у Азербайджане перадаў ёй ганаровы медаль імя Францыска Скарыны за вялікі ўнёсак у наладжванне культурных сувязяў паміж Беларуссю і Азербайджанам.

**Марыя МАЛЕВІЧ. Фота Алісы КОНЬ.**

ПАЗІЦЫЯ

# Каб не згінула Беларусь, створым Нацыянальны камітэт выратавання!

Не раз пісаў, гаварыў і зноў паўтараю тое, у чым цвёрда перакананы: **сёння у Рэспубліцы Беларусь культура і мова тытульнай нацыі, як і само існаванне нашай нацыі, у такім катастрафічным становішчы, якога не было ні пры царскім генерал-губернатары Мураўёве ("вешальніку"), ні падчас масавых сталінскіх рэпрэсій, ні падчас фашысцкай акупацыі ці тады, калі КПСС настойліва вяла курс на гэтак званае зліццё ўсіх народаў у "адзіны савецкі народ"**. Мэта была такая — каб насельнікі былога СССР страцілі сваё нацыянальнае аблічча, забыліся, хто і адкуль яны родам, на якой мове гаварылі многія пакаленні нашых продкаў.

Зараз у нас спрэс пануе і гаспадарыць, нібыта на сваёй уласнай зямлі, мова і традыцыі суседняй дзяржавы. Вось толькі адзін маленькі прыклад: у Беларускім нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета, адзначаючы Стары Новы год, пачалі свята... "Рускім балем". Удзельнічалі ў ім вядомыя артысты, адзначаныя рознымі ганаровымі званнямі і ўзнагародамі беларускай дзяржавы.

Нельга не бачыць, што многія дзеячы мастацтва і культуры не маюць патрэбы ў далучэнні гледачоў і слухачоў да нацыянальнага духу, абыякавыя да каштоўнасцяў культуры і мовы беларускага народа. **Бадай, і самі не разумеюць, што міжволі прычыняюцца да знікнення Беларусі як Беларусі, якая — не выключаю — у не такім ужо далёкім будучым можа апынуцца ў статусе аднай з губерняў Расійскай Федэрацыі...**

Да ўсяго гэтага фактычна прывяла антынацыянальная дзяржаўная палітыка. Самы небяспечны, разбуральны характар яна набыла пасля сумнiўнага рэферэндуму 1995 г. і ўнясення ў 1996 г. у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь згубных паправак наконт мовы. Калі да гэтага, з самага пачатку 1990-х, ішла на ўздым беларусізацыя адукацыі і культуры, то, на жаль, вельмі хутка ўсё пакацілася на спад. З тае пары беларусы не пачулі ад кіраўніцтва краіны аніводнай афіцыйнай прамовы на роднай мове, што самым адмоўным чынам адбілася на стаўленні да яе ўсяго чыноўніцкага апарату, "вертыкалі" з верху да нізу. Адсюль — фактычнае выгнанне нашай мовы з грамадскага ўжытку ва ўсіх сферах. Роднае слова апынулася на мяжы згубы...

Зірнем у вочы праўдзе. Ужо фактычна не стасуецца да назвы нашага народа этнонім "беларусы", а да краіны — "Беларусь". Гэтаму страшэнна здзіўляюцца многія замежныя госці, калі наведваюць наш край. А мы — нічога, звыкліся. Нечуваны абсурд! Самае дарагое, галоўнае, за што цягам стагоддзяў змагаліся гераічныя продкі, мы згубілі якраз за час прэзідэнцкага праўлення ўжо незалежнай краінай.

Выратаванне беларускага народа ад канчатковага знікнення як нацыі сёння справа саміх людзей, свядомых, знітаваных з духоўнымі традыцыямі Бацькаўшчыны. Такіх цяпер, як ні балюча прызнаць, не так і шмат. Апазіцыйным партыям, дэмакратычным рухам не ўдалося ствaрыць крытычнай масы адраджэнцаў, здольных актыўна бараніць ад руйнавання найвялікшыя каштоўнасці нацыі, стаць на шляху несупыннага русіфікатарства. Патрэбны новыя, больш дзейсныя, сапраўды патрыятычныя сілы, партыі і рухі.

Нельга не папракаць былых кандыдатаў у дэпутаты на апошніх парламенцкіх выбарах: ні ў аднаго з іх не было вытрыманай у нацыянальным духу праграмы. На сорам і жаль, не было яе і ў прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла...

Лічу, ёсць глыбокі сэнс у меркаванні галоўнага рэдактара "Народнай Волі" Іосіфа Сярэдзіча, выказаным ім у артыкуле "Пасля прэс-канферэнцыі...", — аб неабходнасці стварэння Нацыянальнага камітэта выратавання Беларусі. З падобнай практыкай, падказвае гістарычны досвед, добра знаёмы і іншыя народы. Чаму ж нам, беларусам, не адважыцца на такое?

Справа, вядома, не з лёгкіх. Тут патрэбны надзвычай сур'ёзны, удумлівы падыход да ажыццяўлення ідэі, патрэбны дыскусіі, навуковыя канферэнцыі, "круглыя сталы", усебаковае абмеркаванне і распрацоўка рэальных шляхоў да вырашэння набалелай праблемы.

Трэба мець на ўвазе: адказная справа не церпіць. **ЗАЎТРА МОЖА БЫЦЬ ПОЗНА!**

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук,**
**прафесар.**

З НАГОДЫ

## *Рубель, талер ці белар?*

*Паважаная рэдакцыя газеты "Народная Воля"! Трохі смешна чытаць такое: талер — гэта незалежнасць і дабрабыт Беларусі (№6 ад 22.01.13 г.). Хіба ад назвы валюты гэта залежыць? Карысней было б, каб эканомікай краіны кіравалі дасведчаныя эканамісты, банкамі — фінансісты, а не будаўнікі, і наогул, каб кіраўнікі падбіраліся па розуме, а не па прынцыпе — раз ты з Шклова ці з Магілёўшчыны, то, значыць, самы разумны і варты. А як будзе называцца валюта — гэта ўжо другасна.*

Тое, што нашы грошы павінны называцца па-нашаму, — гэта аксіёма! Але наўрад ці талер. Гэтая назва не толькі не беларуская, а наогул не славянская, хоць і з'явілася ў Чэхіі. Вядома, талер хадзіў у Літве, але тут не чаканіўся, і назваць яго нашай валютай немагчыма (пры ўсёй маёй павазе да Зянона Пазьняка).

У мяне ёсць ідэя, якая нарадзілася гадоў дзесяць таму, але тады рана было яе агучваць, бо часы былі не тыя. І зараз нічога асабліва не змянілася, але мне здаецца, што ўжо нядоўга чакаць перамен.

У некаторых краінах назва валюты паходзіць ад назвы гэтай краіны. Напрыклад, Францыя — франк, Галандыя — гульдэн, Афганістан — афгані, Латвія — лат, Літва — літ... А для Беларусі я прапаную — БЕЛАР.

З павагай і надзеяй, што мая ідэя не застанецца без увагі, ваш чытач —

**Міхаіл Фёдаравіч СОКУР,**
**пенсіянер.**
*г.Светлагорск.*

ПРАБЛЕМА!

# Ці напаткае медыкаў лёс дрэваапрацоўшчыкаў?

Адной з незабыўных падзей мінулага года з'яўляецца эпізод, калі А.Лукашэнка загадаў дэкрэтам аформіць забарону на самастойнае звальненне работнікаў з прадпрыемстваў лесаперапрацоўчай галіны да заканчэння іх мадэрнізацыі. Гэта выклікала рэзананс не толькі ў нашай краіне, але і за межамі. Папаўзлі чуткі, што хутка і медыкі не змогуць карыстацца сваімі канстытуцыйнымі правамі ў поўным аб'ёме. Дарэчы, у адносінах да іх і без таго чыніцца дыскрымінацыя. Выпускнікі медыцынскіх ВНУ мусяць тры гады працаваць там, куды іх накіравалі, хоць для астатніх спецыялістаў абавязковы тэрмін доўжыцца ўсяго два гады. Зверху гучыць прапанова павялічыць абавязковую адпрацоўку да пяці гадоў.

Яшчэ адзін спосаб утрымання работніка на канкрэтным месцы — кантрактная форма найму на працу. Узровень ахопу гэтай сістэмай у ахове здароўя даволі значны — па словах старшыні Мінскага абкама прафсаюза медработнікаў, у сталічнай вобласці "на кантракце" знаходзяцца 57,6% медыкаў. Пры гэтым, па словах таго ж спецыяліста, кожны доктар працуе больш як на 1,5 стаўкі, што дазваляе мець у сярэднім 5,5 мільёна рублёў у месяц.

Калі палічыць, колькі каштуе работа ўрача на адну стаўку (а менавіта столькі працуе большасць грамадзян у іншых сферах), то выйдзе сума 3,5 мільёна, што на 17% ніжэй, чым у сярэднім па краіне. Увогуле, нягледзячы на неаднаразовыя павышэнні ў мінулым годзе, заробкі ў медыцыне па-ранейшаму знаходзяцца на дзявятым месцы сярод 13 галін народнай гаспадаркі. Прэферэнцыі за пераход на кантракт збольшага фармальныя. На той жа Міншчыне 90,7% спецыялістаў маюць усяго адзін дадатковы дзень да адпачынку, а амаль 40% — толькі адзін дадатковы працэнт да тарыфнай стаўкі.

Валюнтарызму чыноўнікаў таксама спрыяе і тое, што медыцына ў нас амаль цалкам дзяржаўная, і калі ты хочаш працаваць па спецыяльнасці, то мусіш пагаджацца з правіламі гульні, якія ёсць у сістэме, інакш варыянтаў самарэалізацыі на Радзіме можа і не быць зусім.

Факты негалосных распараджэнняў абмяжоўваць скасаванне кантрактаў з бюджэтнікамі па ініцыятыве работніка неаднаразова траплялі ў СМІ. Часам са спецыялістамі спрабуюць дамовіцца "па-харошаму" — калі адзін мой калега ўладкоўваўся на кафедру Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта, то загадчык папрасіў даць слова, што на працягу трох год ён не з'едзе ў Польшчу, як зрабілі ягоныя два папярэднікі.

Пра тое, як утрымаць медыцынскіх спецыялістаў, гаворыцца на ўсіх узроўнях. Так, старшыня прафсаюза медработнікаў Роберт Часнойць прапануе дадатковыя варыянты павышэння зарплаты, гэта значыць, што трэба падымаць тарыфную стаўку 1-га разраду, разам з мясцовымі ўладамі хутчэй вырашаць жыллёвую праблему. Даходзіць да дзіўнага. Першы намеснік начальніка ўпраўлення аховы здароўя Мінаблвыканкама Сяргей Ганчароў лічыць, што галоўнае для замацавання моладзі ў райцэнтрах не зарплата, а *"активная общественная жизнь, дабы не было скучно"*, а начальнік галоўнага ўпраўлення кадраў Міністэрства аховы здароўя Сяргей Сычык прапануе загадкавую пакуль "систему пожизненного найма".

Ілюстрацыяй "прэстыжу" прафесіі ўрача могуць служыць вынікі апытання "Ці збіраецеся вы працаваць у медыцыне?", праведзенага на сайце Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, у якім бралі ўдзел каля 23.000 наведвальнікаў. Па яго выніках больш за 20% рэспандэнтаў альбо не збіраюцца ўвогуле працаваць у сістэме аховы здароўя, альбо разглядаюць магчымасці развітацца з ёй адразу пасля заканчэння тэрміну адпрацоўкі па размеркаванні. Пры ўсёй нерэпрэзентатыўнасці і недакладнасцях выбаркі ёсць пра што задумацца, калі ўлічыць, што на сайт заходзяць у асноўным студэнты-медыкі.

У 2014 годзе будзе выпушчаны павялічаны набор у медыцынскія навучальныя ўстановы, які мусіць збольшага "закрыць" наяўны кадравы дэфіцыт. Як паведаміў ужо згаданы начальнік упраўлення кадраў Міністэрства аховы здароўя спадар Сычык, для прадухілення "вымывання" гэтых спецыялістаў быў падрыхтаваны і накіраваны ва ўрад шэраг прапаноў. Што ён у сябе ўключае — застаецца невядомым.

Тым часам віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік на сумесным пасяджэнні абедзвюх палат Нацыянальнага сходу з задавальненнем адзначыў, што айчынная ахова здароўя выйшла на *"самодостаточный уровень"*. Сярод праблем галіны былі акрэслены павелічэнне колькасці скаргаў на аказанне дапамогі, а таксама недахоп урачоў пры намінальнай забяспечанасці імі ў 1,5 раза больш, чым у еўрапейскіх краінах. *"Решать такие проблемы надо. Тем более что и денег для этого особо не требуется"*, — у духу ідэі Года беражлівасці заключыў віцэ-прэм'ер.

Каб быць лагодней з пацыентам, дадатковых грошай сапраўды не трэба. Але перспектыва рэфармавання медыцынскай галіны ў стылі "Барысаўдрэва" не дае спакою. Бо мадэрнізацыя, мяркуючы па афіцыйных справаздачах, у медыцыне ўжо праведзена, а яна хоць і "самадастатковая", але чамусьці не задавальняе людзей у белых халатах. У некаторых месцах іх катастрафічна не хапае. Няўжо давядзецца ў прымусовым парадку ўтрымліваць дактароў, медсясцёр, санітарак на працоўных месцах?

**Андрэй ВІТУШКА,**
**анестэзіёлаг-рэаніматолаг.**
*Мінск.*

### У ТЭМУ

Намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік выказаў заклапочанасць значным павелічэннем выпуску ўрачоў з медуніверсітэтаў у параўнанні з 1990-мі гадамі. На пасяджэнні калегіі Міністэрства аховы здароўя па выніках 2012 года ён адзначыў, што ў 1990-я гады выпуск з медуніверсітэтаў не перавышаў 1500 чалавек, *"і гэтага было дастаткова для краіны, зараз жа выпускаем дактароў больш, а іх не хапае"*.

Анатоль Тозік выказаў меркаванне, што *"мы ператварыліся ў "палкавую школу для суседніх дзяржаў"*.

ЛИЧНАЯ ПРОСЬБА

# Пойдите навстречу тем, у кого «корчвагены»

Я помню оба приезда Лукашенко к нам, в Североморск, где я тогда служил на Северном флоте. Помню его речь в Доме офицеров флота. Он звал нас после окончания службы на Родину. Честно говоря, мы гордились, что в Беларуси такой президент. Да и многие моряки завидовали нам.

Почти десять лет прошло, как мы переехали в Беларусь. К сожалению, многое оказалось не таким радужным. Ну да Бог с ним! Я — про другое.

Беларусь превращается в свалку старых иномарок. Президент говорит, что у нас социально направленная страна. Помогают беднейшим, которых на самом деле у нас, наверное, большинство. Так вот беднейший не может купить более-менее нормальное авто за границей. Богатый — купит. Ему до лампочки увеличение пошлин. И россияне повыкупают все авто поновее. Вы сходите на авторынок. Там везде написано, что трех-пятилетние авто растаможены на РФ и Казахстан. А простые белорусы перекупают друг у друга "корчвагены", которым далеко за 10—15 лет.

У меня есть знакомые в ГАИ. Они говорят, что очень много старых машин ездят без техосмотра. Люди платят штрафы и продолжают ездить. Это не оттого, что им пофиг. Это оттого, что новые законы сделали беднейших нищими. Они уже не могут купить машину поновее, понадежнее. Да и средств на ремонт не хватает. Свести бы концы с концами в семейном бюджете.

Автомобиль давно уже не роскошь. Даже несмотря на растущие цены на топливо. А старые авто опасны вследствие их технического состояния. Приятно был удивлен, когда президент отказался от налога на утилизацию, принятого в России. Так может, и сейчас, Александр Григорьевич, сделаете подарок простым людям и вернете народу те, старые, таможенные пошлины? Обстановка в стране не улучшается. А так — подарок беднейшим слоям населения, в результате чего они смогут хоть немного обновить свои авто, чем немного обезопасят жизнь свою и своих близких. И Ваш авторитет в глазах простого народа станет выше.

Верю, что и Казахстан подхватит эту идею. Там люди тоже недовольны. Я общаюсь в интернете с моряками-казахстанцами, и они открыто выражают недовольство. А так сделаете подарок народу. Затрат ведь немного надо. Да и поступление в казну валюты от сократившегося количества ввозимых сегодня авто увеличится. Чем больше машин, тем полнее казна. И народу безопаснее передвигаться. Люди пока молчат. Но это молчание настораживает. Поэтому и прошу Вас, Александр Григорьевич, сделать этот шаг навстречу просьбам тех людей, которые не могут сбиться на новую машину.

**А.И.КРАВЦОВ.**
*Витебск.*



МНЕНИЕ

## *Не сокращать тех, кто ловит преступников*

В Беларуси, по словам Александра Лукашенко, на четверть будут сокращены штаты в министерствах и ведомствах. В этой связи мне вспомнился опыт Грузии. Под руководством выпускника аспирантуры МГУ и просто богатого бизнесмена Кахи Бендукидзе Грузия решилась на серьезный кадровый передел — из 18 министерств (в Беларуси сегодня их 24) осталось 13, а из 52 ведомств работают 34. А количество выдаваемых чиновниками лицензий и разрешительных документов сократилось с 909 до каких-то 145 документов. Число госслужащих сократилось вдвое, а зарплата выросла почти в 15 раз. Но при этом выросло количество таксистов на дорогих авто, безработица, а медицина осталась бесплатной лишь для самых нуждающихся. До начала реформ Грузия занимала лишь 183-е место по легкости ведения бизнеса, а теперь находится на престижном 12-м месте. Количество налогов уменьшилось с 26 до шести!

В ходе реформ в Грузии разом было уволено 13 тысяч гаишников, значительно сокращен штат кабинетных полицейских. Но тех, кто занимается оперативной работой, стало больше. Местным ворам в законе создали очень неуютную атмосферу, и те уехали осваивать российские просторы.

А что будет в Беларуси, если значительно сократить ряды милиции? Я имею в виду не спецподразделения ОМОНа, а тех, кто ведет расследования, занимается поимкой хулиганов и преступников. Согласно данным Национального статистического комитета, в нашей стране в 2010 году (сведений за более позднее время я не имею) было совершено 140.920 зарегистрированных преступлений — это значит 386 преступлений в день, или 16 преступлений в час. Ни много ни мало каждые четыре минуты!!! При этом раскрываемость — на уровне 70 процентов.

Руководство МВД заявляет о снижении количества убийств и покушений на убийство, что подтверждает и статистика. В 2000 году таких преступлений было аж 1117, а в 2010-м — 486. Казалось бы, все хорошо. Но примерно такое же количество убийств зарегистрировано в Нью-Йорке, где вместе с пригородами проживает более 20 миллионов жителей, имеется итальянская, ирландская, китайская и прочие мафии и организованные преступные группировки и СВОБОДНАЯ ПРОДАЖА ОРУЖИЯ. К слову, за 2012 год в Нью-Йорке зарегистрировано рекордно низкое количество убийств — 414.

Вот я и задумался: надо ли прореживать ряды наших оперативников? Или все же рано пока, не готово наше общество к этому?

К слову, тот же статистический сборник, изданный в 2011 году, приводит такие цифры. В 2010 году в Беларуси зарегистрировано 33.105 безработных. В том же году из 74 тысяч выявленных преступников 42 тысячи 800 нигде не работали и не учились.

**Леонид ДОКУЧАЕВ.**

ПРОШУ СОВЕТА!

***От редакции.*** *Это письмо 16-летнего Влада Рябича, который с детства страдает ДЦП, в редакцию передали его учителя, сопроводив вот таким текстом:*
*"Дирекция ГУО "Гимназия №3 г.Барановичи" просит Вас опубликовать письмо-обращение нашего ученика 9-го класса Влада Рябича к своим ровесникам.*
*У мальчика непростая судьба. С рождения ребенок тяжело болен, растет с нарушениями опорно-двигательного аппарата. Имея ограниченные возможности, но проявляя огромную силу воли, мужество, Влад обучается дома и успешно осваивает учебную программу. Имеет высокие баллы по всем предметам. Увлекается спортом, компьютером, много читает. Семья принимает активное и первостепенное участие в развитии ребенка, но и семье не все под силу, т.к. семья является многодетной и двое детей (братья-близнецы) имеют особенности в развитии (ДЦП). Не собираясь сидеть на маминых руках, Влад серьезно готовится к самостоятельной жизни. Его письмо к неравнодушным людям заслуживает внимания и поддержки".*

# Как ребенку с ДЦП стать программистом?



Каждый человек хоть раз в жизни задумывался над тем, правильно ли он выбрал профессию, подходит ли он для своей работы. Нередко люди понимают, что выбрали неподходящую профессию. Чтобы таких мыслей не возникало, следует еще в детстве начинать задумываться о будущем, рассматривать все возможные варианты, принимать во внимание советы близких и родных людей, и, безусловно, последнее слово в принятии такого непростого решения в любом случае должно оставаться за вами и только за вами. Как мне кажется, идеальная работа — это возможность заниматься любимым делом в сочетании с хорошей заработной платой.

Если говорить обо мне, то я хотел бы остановиться на трех конкретных профессиях.

Итак, первая профессия — это профессия журналиста. Почему именно она? Потому что журналист — это человек, который может и умеет рассказывать об актуальных событиях, которые происходят в современном мире. Но я не могу ее освоить. Почему? Эта профессия требует того, чтобы журналист выезжал на место событий, а я этого не смогу сделать просто потому, что не могу передвигаться самостоятельно.

Вторая профессия — это профессия повара. Почему? Потому что мне нравится, как готовят лучшие шеф-повара мира. Я восхищен их умением делать из абсолютно любых продуктов шедевры кулинарного мастерства. Но и поваром я не могу стать, т.к. мне сложно выполнять различные действия руками.

Ну, и, наконец, последняя профессия — это профессия программиста. Мне кажется, что для людей с такими особенностями, как у меня, это наиболее подходящий вариант.

Во-первых, она не требует активного движения, что вполне мне подходит.

Во-вторых, программирование может принести огромное удовольствие, так как создавать нечто новое увлекательно и интересно.

В-третьих, если постараться, можно улучшить свое финансовое положение.

Но сложность этой профессии заключается в том, что она требует очень обширных знаний в области программирования, а у меня такой большой базы знаний нет. Поэтому мне хотелось бы пообщаться со сверстниками, узнать, как другие люди с такими же особенностями физического развития продолжают дальнейшее образование, добиваются своей цели в жизни.

И, наконец, что хотелось бы сказать: каждая профессия интересна по-своему, и понятно, что какой-то определенной цели я постараюсь добиться в жизни для того, чтобы получить в будущем достойную профессию.

**Влад РЯБИЧ,**
**ученик 9-го класса гимназии №3 города Барановичи.**

Мне, как маме ребенка с ограниченными возможностями, конечно, важен совет. Хочется узнать мнения людей, которые сталкивались с вопросами образования и трудоустройства таких детей. Может быть, откликнутся специалисты и подскажут нам правильное решение. Буду рада каждому совету, и мы с сыном будем очень благодарны. Однако есть и трудности. И они заключаются не только в передвижении, но и в том, что у моего сына действует только правая рука. И мы реально понимаем, что профессия может быть связана только с компьютером и сидячим образом жизни. Заранее благодарна тем, кто сможет нам помочь с трудоустройством моего сына Владислава. Мой телефон: 8-0295-28-59-48.

**Анна Александровна РЯБИЧ,**
**мама Влада.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ

## *Тайныя мільянеры*

***Цікава, чым жа скончылася гісторыя, якая адбылася на беларуска-ўкраінскай мяжы, калі нашых землякоў злавілі памежнікі суседняй краіны з больш як мільёнам долараў?***

**Сяргей Ваўчкоў, Мінск.**

Любомльскі раённы суд прыняў рашэнне аб канфіскацыі той сумы, якую беларусы неслі праз мяжу нелегальна, а таксама наклаў на іх штраф у такім жа памеры.

Нагадаем, што памежнікі Луцкага атрада затрымалі двух беларусаў, якія спрабавалі незаконна перайсці ўкраінска-беларускую мяжу. Кантрабандысты ішлі ў бок беларускай вёскі Макраны і неслі з сабой 2,4 мільёна долараў. Такім чынам, цяпер па рашэнні суда нашы землякі павінны заплаціць Украіне амаль 5 мільёнаў долараў.

Праўда, з такім рашэннем яны не згодны і ўжо падалі касацыйную скаргу.

Хто гэтыя таямнічыя мільянеры і адкуль у іх такія грошы, не паведамляецца.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
8 ЛЮТАГА 2013 г.

ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ

## В Берлине открылся 63-й кинофестиваль

Он считается ведущим в области политического и социального кино. Проводится с 1951 года. В основной программе — 19 картин. Завершится кинофорум 17 февраля.

## США ввели новые санкции против Ирана

Министерство финансов США заявило, что новые меры сокращают список стран, которые, не нарушая санкционного режима США, могут покупать нефть у Ирана. Санкции также затрудняют Тегерану доступ к средствам, вырученным от продажи нефти за рубеж. США ужесточают санкции в отношении Ирана в связи с ядерной программой этой страны.

## В Тунисе отправлено в отставку правительство исламистов

Премьер-министр Туниса Хамади Джебейли объявил о роспуске кабинета министров, пообещав сформировать правительство "беспартийных технократов", которое будет управлять страной до выборов, сообщает Reuters. Новое правительство будет ограничено в полномочиях и состоять из меньшего числа министров, уточнил он. Поводом для этого стала волна народного гнева, которая прокатилась по стране.

Стрельба в воздух, слезоточивый газ и баррикады — так выглядит столица Туниса, которую охватила новая волна массовых беспорядков. Поводом для выступлений стало убийство оппозиционного политика Шукри Балаида. Главу партии "Аль-Ватад" расстрелял неизвестный на мотоцикле. О мотивах преступления пока ничего не известно, но противники нынешних властей обвиняют во всем правительство.

## Встреча представителей Грузии и России состоится 1 марта

Следующая встреча специального представителя премьер-министра Грузии по отношениям с Россией Зураба Абашидзе с заместителем министра иностранных дел России Григорием Карасиным состоится 1 марта в одном из городов Европы.

"Место пока обсуждается", — заявил Карасин журналистам.

Что касается тем для обсуждения, замглавы российского МИД отметил, что стороны будут "искать те сферы, в которых возможно продвижение вперед и решение конкретных вопросов". "Прежде всего это гуманитарные контакты, торговля, естественно, транспорт", — отметил Григорий Карасин.

## В Таджикистане родилась восьми-миллионная жительница

Как ожидается, в ближайшие дни родители новорожденной получат от имени президента страны Эмомали Рахмона ключи от двухкомнатной квартиры в Душанбе. Отметим, что семимиллионный житель Таджикистана родился в Душанбе в августе 2006 года. Матери мальчика — 27-летней Мунисе Назриевой — также была подарена квартира.

## В России обнаружен фиктивный банк

Он предлагал кредиты, но на самом деле не существовал.

ЦБ впервые столкнулся с созданием фиктивного банка, который предлагал услуги населению. Целью мистификаторов был сбор персональных данных претендентов на кредит.

## Прибалтийские фермеры зажгли «костры протеста»

Фермеры из Эстонии, Латвии и Литвы зажгли цепь костров в знак протеста против слишком низких, по их мнению, субсидий со стороны ЕС. Костры (участники акции в основном жгли стога сена) располагались вдоль трассы Via Baltica.

Костры в рамках этого мероприятия были зажжены в том числе на Ратушной площади в Таллинне, на Домской площади в Риге, а также на границе Латвии и Эстонии. Фермеры недовольны тем, что дотации ЕС на сельское хозяйство, предусмотренные для стран Балтии, существенно ниже тех, что направляются в другие страны Евросоюза.



**У чаканні смачнай ежы на Карлавым мосце Прагі. Як пішуць, чэхі не схільны падаваць людзям, затое адорваюць сабак. Здымак з сайта Бі-Бі-Сі з раздзела "Чаканне".**

## *Падазроны чэк на 70 млн долараў*

Мытнікі ў аэрапорце Дзюсельдорфа затрымалі былога кіраўніка Цэнтрабанка Ірана Тахмасба Мазахеры з-за таго, што ў яго багажы быў знойдзены чэк на 300 млн венесуэльскіх балівараў.

Чэк выпісаны банкам Венесуэлы, а сума эквівалентна 70 млн долараў ЗША. Паліцыя пачала расследаванне на прадмет магчымага адмывання грошай, але пакуль невядома, ці маюць дачыненне да інцыдэнту цяперашнія ўлады ісламскай рэспублікі.

Іранец спрабаваў уехаць на тэрыторыю Нямеччыны з Турцыі. Ён з'яўляўся кіраўніком Цэнтрабанка Ірана да 2008 года.

ЗША, шэраг іншых краін Захаду і Ізраіль абвінавачваюць Іран у распрацоўцы ядзернай зброі пад прыкрыццём праграмы мірнага атаму. Тэгеран усе абвінавачванні абвяргае, заяўляючы, што яго атамная праграма накіравана выключна на задавальненне патрэб краіны ў электраэнергіі. У цяперашні час у дачыненні да Ірана дзейнічаюць чатыры санкцыйныя рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН, якія забараняюць экспарт у Іран атамнай, ракетнай і значнай часткі ваеннай прадукцыі, а таксама замежныя інвестыцыі ў нафтагазавую прамысловасць.

## *У Польшчы судзяць сталінскага ахоўніка*

Справа былога сталінскага ахоўніка з турмы ва Уронках вяртаецца ў суд. Інстытут нацыянальнай памяці абвінавачвае Конрада К. у перавышэнні службовых паўнамоцтваў і здзеках з палітвязняў у 1948—1954 гадах.

85-гадовы мужчына летась быў асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі з выпрабавальным тэрмінам. Аднак суд вырашыў, што неабходна дапытаць семярых дадатковых сведак.

ЧУЛІ?

# Рак. Як яго пазбегнуць?

*Адзначаны Сусветны дзень барацьбы з ракам. З гэтай нагоды эксперты параілі, як яго пазбегнуць. Яны заклікаюць весці здаровы лад жыцця.*

Па-першае, не курыць. Па-другое, не таўсцець. Акрамя гэтага, правільна харчавацца і не забываць пра фізічную актыўнасць, пазбягаць стрэсу. Менавіта пра гэтыя прынцыпы нагадвае Сусветная арганізацыя здароўя. Паводле яе, дзякуючы звычайнай асцярожнасці можна не дапусціць да амаль 1/3 выпадкаў ракавых захворванняў. Не ўсе пра гэта ведаюць, таму на сённяшні дзень абраны лозунг "Ці ты ведаеш?".

У Сусветнай арганізацыі здароўя тлумачаць, што з ракам звязана шмат міфаў, напрыклад, што гэта смяротны прысуд. Ракавыя пухліны, якія яшчэ 20 гадоў таму былі смяротнымі, сёння не з'яўляюцца такімі страшнымі. Апошнімі гадамі навукоўцы мелі шмат дасягненняў у барацьбе з ракам. Гэта, аднак, не мяняе факту, што момант, калі медыцына пераможа рак, яшчэ вельмі далёка, — кажуць у САЗ.

Штогод у свеце выяўляецца 12 мільёнаў выпадкаў. Паколькі гэтая хвароба звязана з узростам, а грамадства старэе, то колькасць захворванняў будзе павялічвацца. Мяркуецца, што ў 2030 годзе на рак захварэе 20 мільёнаў чалавек.

Рак робіцца галоўным забойцам людзей у XXI стагоддзі — звяртае ўвагу старшыня Польскага анкалагічнага саюза Януш Мэдэр. Ён адзначае, што трэба рэгулярна абследавацца і кансультавацца з урачом наконт падазроных сімптомаў, асабліва, калі яны ўтрымліваюцца даўжэй за 2—3 тыдні.

Польшча адстае ад Еўропы па выніках барацьбы з ракам. У сярэднім кожны другі жыхар Еўрапейскага Саюза, у якога выяўлены рак, можа перамагчы хваробу. У Польшчы толькі 38% пражывае 5 гадоў ад моманту дыягнаставання хваробы.

Калі казаць пра Беларусь, то за апошнія 10 гадоў у краіне павялічылася колькасць хворых на рак скуры (79%), на рак прастаты (130%), на рак ныркі, на рак шыйкі маткі і рак малочнай залозы. Медыкі адзначаюць, што рак найчасцей закранае людзей пенсіённага ўзросту (69%), адзначаецца на сайце "Польскага радыё для замежжа".

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

ТОЧКИ НАД «і»

# Почему юань не станет новой резервной валютой

Разговоры о необходимости новой международной резервной валюты становятся все более актуальными. Главным претендентом на замену "американцу" называют юань. Однако для этого Китаю нужно не только либерализовать финансовые рынки, но и сделать самое трудное — осуществить переход к демократии. В этом уверен профессор экономики Университета Калифорнии Барри Эйченгрин.

В прошлом месяце Китай снова бросил вызов Соединенным Штатам. В Южно-Китайском море появился первый авианосец китайского производства. Однако Китай пытается усилить свои международные позиции не только путем наращивания военной мощи. Тема резервной валюты стала все чаще всплывать в прессе.

С начала XIX века ведущими мировыми валютами обладали страны с демократической политической системой, где произвольные действия официальных лиц были ограничены соответствующими законами. Такая система всегда располагала к себе инвесторов.

Это не означает, что в Китае должна случиться "демократическая весна" или революция, прежде чем юань станет одной из ведущих международных и резервных валют. Однако это точно значит, что полномочия Всекитайского собрания, законодательного органа страны, должны укрепляться, а общение граждан с государством должно стать прозрачным и простым. Только тогда валюта Китая сможет достигнуть своих монетарных целей.

Но готов ли Китай к такому повороту?



**Уладальнік заапарка Манілы Эмануэль Тангко чытае на ноч казку пітомцам свайго тэрарыума. Наступленне новага года Змяі тут, як і ў Кітаі, будуць святкаваць 10 лютага.**

## *Казахстан: волна загадочных самоубийств пограничников*

*Власти Казахстана расследуют обстоятельства недавних смертей двух высокопоставленных сотрудников погранслужбы, которые, по предварительным данным, покончили жизнь самоубийством.*

По официальным сообщениям, в понедельник, 4 февраля, покончил с собой Мурат Кадралинов, заместитель начальника пограничной заставы Чунджинского пограничного отряда Регионального управления "Шыгыс" ("Восток") Пограничной службы Комитета национальной безопасности.

Ранее, 31 января, в своем кабинете был найден мертвым директор Академии пограничной службы КНБ Казахстана генерал-майор Талгат Есепов. Предварительная версия случившегося и в этом случае — самоубийство.

По мнению ряда наблюдателей, уход из жизни этих офицеров, гибель главы погранслужбы Казахстана полковника Турганбека Стамбекова в декабрьской авиакатастрофе и массовая бойня на заставе "Арканкерген" в мае 2012 года могут быть взаимосвязаны.

Председатель Союза ветеранов боевых действий и миротворческих операций "Казбат" Аскар Шимпеев не верит в официальные версии самоубийства офицеров.

"По моему мнению, все, что происходит за последнее время в погранслужбе, — это звенья одной цепи. Причина всех трагедий — деньги. Через границу проходит контрабанда, заплати — и на тебе "зеленый свет". Говорят, есть даже определенная ставка — 15—20 тысяч долларов за КАМАЗ", — сказал Шимпеев в интервью Русской службе Би-Би-Си.

АСОБЫ

### *Міхась ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ*

# Пясняр з Пружаншчыны

*(Пачатак у № 10.)*



Выдатныя майстры, нават з ліку шавіністаў, ставіліся да мяне добра (я ж спяваў і польскія песні!). Былі такія палякі, якія і падтрымлівалі мяне, і дапамагалі мне. Да іх належаў, напрыклад, дырэктар польскага (варшаўскага) радыё Рудніцкі.

Памятаю такі выпадак. Спаткаў ён мяне на вуліцы. Прывіталіся. Глядзіць на мяне і кажа: "Чаго гэта вы сумны? Вясна ж на дварэ! Калі ў нас спяваеце?" — "Не ведаю!" — кажу. "Як гэта?" — "Ды ні адзін з вашых рэферэнтаў не прыняў маю праграму на гэты месяц". — "Вось як! Хадзем са мною". Зайшлі ў яго кабінет. Ён паклікаў сваіх рэферэнтаў. "Калі ў вас спявае Забэйда?" — спытаўся. "У нас не выходзіць", — адказалі. "Дык вы хочаце лепш вянкі на труну несці, як гэта было нядаўна з Шыманоўскім?" — "Можа, неяк уключым Забэйду", — сказалі адзін за другім.

Добра ставіўся да мяне і дырэктар Варшаўскага радыё Раман Ясінскі. Нават Варшава перадавала мой канцэрт у запісе на грампласцінках.

Мае выступленні па Варшаўскім радыё трансліравалі Парыж, Лондан, Прага, Нью-Ёрк і іншыя радыёстанцыі. Пасля выступленняў атрымаў пісьмы з розных гарадоў, а лонданскі радыёчасопіс змясціў мой здымак і артыкул пад загалоўкам "Спявак, які сам сябе зрабіў". Польскія кампазітары прыслалі мне свае творы з просьбай, каб я выконваў іх у сваіх канцэртах. Дзякуючы падтрымцы лепшых польскіх людзей, я наспяваў на грампласцінкі першыя ў Заходняй Беларусі і наогул у Польшчы беларускія народныя песні.

Гэта былі: 1) "Малады дубочак", 2) "Чаму мне не пець", 3) "Ляціць сарока", 4) "Конь бяжыць, зямля дрыжыць", 5) "Шчука — рыба ў моры", 6) "Ой, ранарана куры запелі", 7) "Рабінарабіначка", 8) "Як памерла матулька", 9) "Ой, у лесе-лесе", 10) "Лявоніха" ў апрацоўцы Туранкова, Красева, Грэчанінава і Казуры. Аднак, каб гэтыя грампласцінкі выпусціць, мне давялося таму-сяму "пазычыць" "пару злотых" (беззваротна). Але грампласцінкі ўдаліся і зрабілі сваю справу.

Песні карысталіся такім поспехам, што на Баранавіцкім радыё іх забаранілі перадаваць. У гэты ж час я наспяваў на грампласцінкі і дзве польскія народныя песні: "Куявяк" і "Одэйдзь, Ясю, од окенка" ў апрацоўцы Новавейскага. Цікава, што калі прыехала з Японіі этнаграфічная камісія, каб выбраць нешта з польскага фальклору, то найбольш захапляліся гэтымі польскімі песнямі ў маім выкананні і ўзялі грампласцінку з сабой.

Нягледзячы на ўсе перашкоды, я стаў у Польшчы жаданым спеваком. У маім рэпертуары былі арыі з опер, араторыі, кантаты, песні і рамансы розных народаў і стыляў — ад класікаў да сучасных кампазітараў. Выступаў многа, выязджаў у гастрольныя паездкі за граніцу.

У 1938 г. мяне запрасілі выступіць у Празе, але палітычная сітуацыя была такая, што ад паездкі я адмовіўся. Урэшце, у 1939 г. планавалася гастрольнае турнэ не толькі па Еўропе, але і па Амерыцы. Планы не здзейсніліся, перашкодзіла праклятая вайна.

Захапіла яна мяне ў Варшаве. Як вядома, нямецкія фашысты хутка акружылі горад і сталі бамбіць яго і абстрэльваць. І вось мне ўспамінаецца гераічны ўчынак майго стрыечнага брата Язэпа Урбановіча. Ён з адным сваім таварышам прабраўся праз акружэнне і пранік у Варшаву, каб вывесці мяне з пекла, у якім я апынуўся. На жаль, я быў хворы і не мог ісці. Крануты добразычлівасцю, я падзякаваў ім за чалавечыя адносіны да мяне; пры развітанні сказаў, што хоць застаюся ў Варшаве, але душою буду заўсёды з імі. Так яно і было.

У час бамбардзіроўкі Варшавы мяне аднойчы кантузіла на вуліцы, засыпала ў разбураным доме. У варшаўскім пекле я пражыў да мая месяца 1940 года, а вясною пераехаў у Чэхаславакію. Трудна забыць тое ўражанне, якое зрабіла на мяне Прага — майская, квітнеючая, залатая Прага. Гэта быў рай! Калі сонечным днём я падняўся на зялёную горку Пэтршын і ўбачыў усю прыгажосць горада, мне здалося, што ў мяне выраслі крылы і што я вось-вось палячу.

Потым я спазнаў і другую старонку пражскага жыцця — цяжкі прыгнёт гітлераўскіх акупантаў.

Неўзабаве мяне запрасіў да сябе на работу Народны тэатр. Выступленне прайшло добра. Крытыкі напісалі, што ў Пражскім тэатры роля Ленскага звычайна адыходзіла на другі план, госцю, аднак, удалося паставіць гэту ролю ледзь не на галоўнае месца.

12 снежня 1940 года адбыўся і мой першы канцэрт у Празе. У перапоўненай Сметанаўскай зале, дзе было больш за тысячу слухачоў, у першы раз прагучала і беларуская песня. Я праспяваў там і шырокавядомую песню выдатнага чэшскага кампазітара Б.Сметаны "Кдо в златэ струны заграт зна", якая канчаецца такімі словамі: "Той народ яшчэ не загінуў, якому вяшчун спявае, бо песня ў небе народжана і ў прах жыццё ўдыхае". Воплескі, якія дамагаліся паўтарэння, былі такія бурныя, што сапраўды "гатовы былі змыць і песняра і эстраду", як пісаў калісь Максім Танк. Мой насцярожаны акампаніятар папярэдзіў: "Не паўтарайце, бо пасадзяць на месца і вас, і мяне з вамі".

Крытыка на канцэрт была вельмі добрая. Вось што пісаў "Народні стршэд" (Прага, 18.10.1940 г.):

"Сапраўднай мастацкай падзеяй было канцэртнае выступленне беларускага спевака Міхала Забэйды-Суміцкага, які зноў, як і ў ролі Ленскага ў оперы "Яўгеній Анегін" Чайкоўскага, паказаў сябе спеваком сусветнага маштабу. Ён валодае сваім сакавітым і гнуткім голасам з віртуозным майстэрствам. Захапляе буйнай сілай і незвычайнымі ціхімі тонамі.

І заўсёды добра разумееш кожнае яго слова, ці калі спявае на сваёй мове, ці з прыкладнай увагай па-чэшску. Стылёвая інтэрпрэтацыя італьянскіх майстроў (Качыні, Карыссімі), таксама як і Моцарта і Шуберта, знаходзіць у Забэйды заўсёды арыгінальнае тлумачэнне. Чайкоўскага спявае проста непераўзыдзена, гэтак жа, як і Рымскага-Корсакава. З чэшскіх песень, разам з Дворжакам і Новакам, асабліва ўдалася Сметанава "Хто ў залатыя струны". Найбольшага поспеху, натуральна, дасягнуў у беспадобна дасканалым выкананні ўкраінскіх і беларускіх песень, цудоўным харастовом якіх здолеў захапіць прыдзірлівага слухача. Забэйда становіцца, такім чынам, сапраўдным энтузіястам, які прапагандуе скарбы народнай творчасці з вялікім поспехам". Тое ж самае пісалі і іншыя крытыкі.

У Берліне мяне абвінавацілі ў тым, што я займаюся прапагандай славянства. Я апраўдваўся, спаслаўшыся на тое, што праграма маіх канцэртных выступленняў дазволена цэнзурай.

Сітуацыя яшчэ больш ускладнілася, калі нямецкія фашысты напалі на Савецкі Саюз. Праз колькі дзён пасля першых "маланкавых" нямецкіх перамог на маю кватэру з'явіўся гестапавец і сказаў, што мяне выклікаюць у Берлін. Пасадзілі мяне ў самалёт і павезлі. У Берліне завялі да якогасьці "шэфа", які тут жа прапанаваў узначаліць "беларускія" радыёперадачы з Берліна і пераехаць у Берлін. Я адмовіўся. Мне параілі падумаць і з'явіцца на другі дзень. Але і на другі дзень я не змяніў свайго намеру. Калі выклікалі на трэці дзень, я ўжо думаў, што больш ніколі не ўбачу залатой Прагі. На маё шчасце, за гэты час "шэфы" знайшлі сабе некага больш "пакладзістага" і мяне адпусцілі. Можаце ўявіць, што я перажыў за тыя тры дні.

А ў Празе чакала іншая "прапанова". Мяне выклікалі ў аддзел нямецкай прапаганды і сказалі, што калі я хачу спяваць у тэатры, то павінен "праявіць сябе палітычна". Я не мог "праявіць сябе палітычна", і прыйшлося адмовіцца ад тэатра, сказаўшы, што мне не дазваляе працаваць здароўе. Мушу сказаць яшчэ аб адной прапанове. Вядомае канцэртнае бюро ў Дрэздэне, якое займалася арганізацыяй канцэртных выступленняў выдатнейшых спевакоў свету, такіх як Джыльіга, Ціта Скіпа, Тоці даль Монтэ, раней Шаляпіна і іншых, прыслала мне разам са спісам імён славутых вакалістаў, якім яно ўжо забяспечвала выступленні, запрашэнне, абяцаючы ўзяць на сябе ролю падрадчыка ў наладжванні маіх канцэртаў. Але і ад гэтай прапановы я адмовіўся. Я ведаў, што фашысты нацкоўваюць адзін народ на другі, выкарыстоўваючы іх спрэчкі ў сваіх інтарэсах. Я ж стараўся песняю з'ядноўваць людзей, стараўся закрануць найдалікатнейшыя, самыя патаемныя і лепшыя струны чалавечага сэрца. Таму я спяваў і на роднай мове таго народа, перад якім выступаў. Родная песня адкрывала іх сэрцы, а з адкрытым сэрцам яны прымалі прыгажосць песень і іншых народаў, збліжаючыся з імі. Я спяваў на якіх 16 мовах розных народаў. Спяваў толькі на памяць. Але, як чэхі кажуць, "стало то за то". Мае выступленні ўспрымаліся з асаблівай цеплынёй і шчырасцю. Гэта не быў проста поспех: адбывалася нешта такое, што ўзбагачала людзей, збліжала, рабіла іх лепшымі, у тым ліку і мяне самога. Песня станавілася сапраўднай зброяй у барацьбе за лепшага чалавека, за лепшае жыццё.

Памятаю такі выпадак. Прыехаў я ў Рыгу. Якраз перад выхадам на сцэну арганізатары канцэрта папярэдзілі мяне, што тутэйшы слухач — народ паўночны, з халадком, знешне рэагуе мала, дык каб я на гэта не звяртаў увагі і не збянтэжыўся часам. (З друку арганізатары ведалі, што мае канцэрты ўсюды праходзяць з вялікім поспехам.) Падзякаваўшы за папярэджанне, я выйшаў, як звычайна, на эстраду і адразу ж пераканаўся, што мне сказалі праўду: першыя воплескі былі стрыманыя. Аднак ужо на трэцяй песні лёд "паўночных" людзей растапіўся, а калі я заспяваў песні на латышскай мове, воплескам не было канца, і я вымушаны быў спяваць паўторна. Слухачы так захапіліся маёй песняй, што многія рэчы даводзілася спяваць на "біс". Праспяваў паўторна і нашу "Лявоніху", якая не прадугледжвалася праграмай. Публіка не хацела разыходзіцца, не адпускала мяне са сцэны. Пасля выступлення арганізатары канцэрта падышлі падзякаваць мне і прасілі прабачэння за сваё памылковае папярэджанне, гаворачы, што ў іх ніколі нічога падобнага не бывала, што і на выступленні самых выдатных артыстаў іх публіка так горача не рэагавала і што сёння яна проста перарадзілася.

Расказаў я аб гэтым не дзеля таго, каб пахваліцца поспехам. Хоць ён мяне і радаваў, але пасля канцэртаў я не спаў звычайна цэлыя ночы, ведаючы, што, калі б меў лепшае здароўе ды іншыя ўмовы, мог бы даць людзям значна больш. А гэта было маёю мэтаю.

Запрасілі мяне выступіць і ў Ваўкавыску, дзе я спяваў яшчэ перад вайной. Паведаміў аб гэтым сваёй маці і папрасіў, каб яна прыехала. Прывёз яе Уладзімір Урбановіч, брат Язэпа, ці Ёзіка, як мы яго звалі. Ёзік быў партызанам. Цераз Уладзіміра і маці я ўзнавіў з ім кантакт, які пачаўся яшчэ ў Варшаве. Растлумачыў яму, чаму спяваю. (Між іншым, калі б не спяваў, то вымушаны быў бы працаваць дзе-небудзь у Германіі, на ваенным заводзе, як працавалі іншыя, прымусова ўзятыя фашыстамі.) Ганарар ад канцэртаў у Ваўкавыску я аддаў Урбановічу, каб ён перадаў партызанам, папрасіўшы яго не гаварыць аб гэтым нават самым блізкім. Маці папрасіў, каб яна аддала партызанам на бінты маю тонкую бялізну (што яна і зрабіла, як я потым даведаўся). Я папрасіў тады маці дапамагаць Ёзіку чым зможа, а сам паабяцаў ёй дапамагаць з Прагі, а пры зручным выпадку прывозіць самому ў Ваўкавыск тое-сёе. Так яно і было.

Але ці варта зараз аб гэтым пісаць: ні маці, ні Язэпа, ні Уладзіміра Урбановічаў цяпер няма ў жывых. Калі б яны былі жывыя, можа б, і маё жыццё склалася інакш...

Я перажыў цяжкія хвіліны, даведаўшыся, што гестапаўцы злавілі і катавалі Уладзіміра Урбановіча. Прызнацца, мяне мучыла, як ён вёў сябе на допыце, ці вытрываў, ці не выдаў чаго пад катаваннямі. Сумненні ўзраслі, калі мяне самога ноччу арыштавалі гестапаўцы і павялі ў турму.

Але аб гэтым іншым разам. Зараз хачу расказаць некалькі слоў пра тое, чаму цяпер нават цяжка паверыць.

Неяк я спяваў у Літве. Дакладна не памятаю назву мясціны. Канцэрт адбываўся ў нядзелю ў школе. Людзей было столькі, што памяшканне не магло змясціць усіх. Паадчынялі вокны і дзверы. Людзі сядзелі на падаконніках і залазілі нават на эстраду. Тыя, хто не трапіў у залу, тоўпіліся пад вокнамі. Я ледзь дабраўся да піяніна. Было горача, не было чым дыхаць. Спяваць было цяжка, але бадай кожную беларускую песню спяваў на "біс".

*(Заканчэнне на 6-й стар.)*

АСОБЫ

# Пясняр з Пружаншчыны

*(Заканчэнне. Пачатак на 5 стар.)*

Пасля канцэрта быў наладжаны гасцінны стол, за якім сядзела багата людзей.

Пераначаваўшы і застаўшыся адзін, я выйшаў падыхаць свежым паветрам. І вось, калі я падышоў да лесу, спаткаў маладога хлапца. Разгаварыліся. Ён мне сказаў, што ўчора слухаў мяне на канцэрце і быў таксама на гасціннай вячэры. І ўрэшце спытаў, ці падазраю я, што за сталом знаходзіліся партызаны.

Малады чалавек расказаў, што ведае мяне яшчэ з Вільні, дзе ён раней працаваў. "Спявайце больш, — сказаў ён, — вельмі нам дапамагаеце, вы абуджаеце волю да барацьбы за вызваленне ад акупантаў. Бачыце, як вас учора слухалі і прымалі?!" Заўважыўшы, што нехта набліжаецца ў нашым напрамку, незнаёмы падзякаваў за канцэрт і, паціснуўшы мне руку, пайшоў у лес. Я вярнуўся ў школу.

Пасля канцэртаў не раз здаралася гутарыць з моладдзю, часта адзін на адзін, і я пераконваўся, што песня рабіла сваю справу. Горш было, калі часам у Прагу мне пісалі вельмі адкрыта. Вось такія лісты: *"Вельмі паважаны і найдаражэйшы наш мастак! Не толькі ў мяне выклікаюць натхненне і любоў да сваёй роднай песні вашы канцэрты, але ў кожнага, чый слых хоць раз сутыкнуўся з чароўнай мелодыяй вашага голасу.*

*Песня гэта несла на шырокія, залочаныя сонцам палі, на хвалюючыя загоны ніў, пад пагоднае сіняе неба нашай далёкай, дарагой краіны...*

*Песня гэта зблізала з даўно пакінутым, аднак ніколі не забытым жыццём, якое здаецца пры цяперашніх жудасных абставінах сном.*

*Песня гэта адкрыла заслону мінуламу, і яно, блізкае, роднае, так ярка ўстала перад вачыма, бо раптам з'явіўся той надзвычайны маляр, які асвяжыў гэтыя мілыя вобразы, пакрытыя смугою незлічоныя раны... Застаюся сэрцам і душою з вамі. Сергіевіч".*

Атрымліваў і вастрэйшыя пісьмы, але я, жывучы няўпэўненасцю, што мяне могуць у любы момант "адведаць" гестапаўцы, папаліў іх.

Здаралася і такое. Аднойчы я прыехаў выступаць у Вільню. Іду па вуліцы, насустрач мне крочыць жанчына з двума гестапаўцамі. Параўняўшыся са мною, яна раптам крыкнула гестапаўцам, паказваючы на мяне: "Затрымайце яго! Ён учора быў са мною ў крымінале і скраў у мяне рэвальвер!" Гестапаўцы імгненна накіравалі на мяне аўтаматы, скамандаваўшы: "Рукі ўгару!", адвялі ў цёмны двор і пачалі абшукваць мяне.

Заўважыўшы, што жанчына полька, кажу ёй па-польску: "Што вы робіце? Вы ж мяне зусім не ведаеце!" А яна: "Я вас добра ведаю і ведаю, што раблю. Вядзіце яго ў крымінал!"

З маіх дакументаў ясна было відаць, што ўчора я не быў у Вільні, і гэта мяне выратавала. Злосны правакатар пралічылася, і мяне адпусцілі.

Як я потым даведаўся, гэта быў правакацыйны метад фашыстаў, ад якога загінула шмат беларусаў. А вечарам таго ж дня я спяваў на канцэрце Манюшку і Шапэна на польскай мове.

Неўзабаве з Варшавы ў Прагу прыйшоў данос, у якім паведамлялася, што я бальшавіцкі агент. Мяне пацягнулі ў гестапа. Зноў допыты, зноў высвятленне маёй палітычнай зарэкамендаванасці.

Пераканаўшыся, што ад мяне не дабіцца ніякай карысці, немцы распарадзіліся выселіць мяне з Прагі як непажаданую асобу.

Дапамаглі ў бядзе мае знаёмыя дактары: мне выдалі медыцынскае пасведчанне, у якім пацвярджалася, што я цяжка хворы на сэрца і што знаходжуся на лячэнні. Такім чынам, высяленне на нейкі час удалося зацягнуць. Затое нямецкія ўлады забаранілі мне выезд з Прагі без спецыяльнага дазволу, і на працягу цэлага года я павінен быў кожны месяц адзначацца ў пражскай паліцыі.

Але горш за ўсё жылося ў 1944 годзе.

Я павінен быў наспяваць новыя беларускія песні на грампласцінкі. Адчуваючы сябе дрэнна, звярнуўся да доктара, каб ён зрабіў ін'екцыю кальцыю ў жылу. Праз паўгадзіны я адчуў сябе яшчэ горш, тэмпература падскочыла да 40°, пачалася рвота. Знаёмыя, куды я зайшоў, амаль непрытомнага адвезлі мяне дамоў. Гаспадыня, у якой я кватараваў, паклікала іншага доктара, які, агледзеўшы мяне, сказаў: "Не ведаю, ці вытрывае хворы гэтую ноч" — і загадаў неадкладна адвезці мяне ў бальніцу. Як высветлілася, ін'екцыяй была атручана кроў. Папраўляўся я марудна.

Аднойчы ноччу мяне нехта разбудзіў. Расплюшчваю вочы і не веру: у пакоі цёмна, у промні кішэннага ліхтарыка бачу накіраваны на мяне рэвальвер. Грубы голас у цемру разнуў: "Уставай, пойдзем з намі!" Слабы ад хваробы, ледзь трымаючыся на нагах, апранаюся, а на рукі ўжо надзяваюць ланцугі. І павялі ў цемру...

Вось тады я пазнаёміўся са "слаўным" Печкавым палацам — гняздом гестапа, з Панкрацкаю турмою і, нарэшце, з турмою ў Бенешаве. Гэта была Кальварыя, якая пакінула след на ўсё жыццё. Што ж здарылася? Чаму гестапаўцы надзелі мне наручнікі?

У доме, у якім я жыў, многа разоў начаваў без прапіскі чэх. Ён, як нам казаў, трымаў сувязі са славацкімі партызанамі. За чэхам сачылі гестапаўцы і налучылі яго недзе ў другім месцы. Схапіўшы чэха, фашысты арыштавалі ўсіх жыхароў нашай кватэры, а за мной прыйшлі ў бальніцу... Я чуў, як чэха білі фашысты, ён крычаў... Я чакаў сваёй чаргі. І ведаеце, чаго я тады шкадаваў? Што не паспеў зрабіць новых запісаў беларускіх песень на грампласцінкі... Я застаўся жывы і, як бачыце, магу пісаць гэтыя радкі.

Нядаўна я глядзеў фільм аб Юліусу Фучыку, які, здаецца, дэманстраваўся ў Савецкім Саюзе. Там, між іншым, паказвалі і Панкрацкую турму і Печкаў палац. Фільм яшчэ раз ажывіў у памяці страшэнна перажытыя малюнкі.

Цяпер можаце ўявіць, з якім пачуццём мы сустракалі ў Празе Савецкую Армію. Яшчэ за некалькі дзён да прыходу арміі-вызваліцельніцы па закліку чэшскіх патрыётаў, перададзеным па радыё, на вуліцах чэхаславацкай сталіцы мы пабудавалі барыкады, каб дапамагчы савецкім воінам дабіваць фашысцкую нечысць.

Пасля вызвалення Прагі Савецкай Арміяй ад гітлераўскіх акупантаў пачалося новае жыццё, новая праца. Мяне запрасілі выступаць па радыё і ў канцэртах. Спяваў песні партызанскія, кампазітараў-класікаў, народныя — рускія, украінскія, беларускія, польскія і іншыя.

У той час у Празе на радыё працаваў кампазітар Альберт Пэк, які вёў аддзел народнай музыкі. Ён зацікавіўся паказанымі яму беларускімі песнямі і па маім жаданні апрацаваў восем песень для канцэртнага выканання. Я выканаў іх разам з сімфанічным аркестрам, якім дырыжыраваў Пэк. Песні, перададзеныя па радыё, вельмі спадабаліся слухачу і паўтараліся неаднаразова. Гэта былі "Зялёны дубочак", "Ды ўжо сонейка", "Ой, валы мае", "Замуж пайсці", "Ой, ляцелі гусі ды з-пад Беларусі", "Ой, у лесе", "Калыханка" і "Ой, пайду я лугам, лугам".

Калі ў Прагу сталі даходзіць песні савецкіх кампазітараў, я ўсё, што мне падыходзіла па голасе, рыхтаваў і спяваў як першае ў Празе выкананне. Так, у клубе кампазітараў, а потым па радыё я выканаў 5 рамансаў Шастаковіча — "День встречи", "День признания", "День обид", "День радости" и "День воспоминаний"; Кабалеўскага — "Дзесяць санетаў Шэкспіра":

1."Тебе ль меня придется хоронить",
2."Трудами изнурен, хочу уснуть",
3."Люблю, но реже говорю об этом",
4."Когда на суд безмолвный, тайных дум",
5."Бог Купидон дремал в тиши лесной",
6."Не изменяйся, будь самим собой",
7."Ты музыка",
8."Ты погрусти, когда умрет поэт",
9."Уж если ты разлюбишь",
10."Увы, мой стих не блещет новизной".

На гэтых нотах Д.Кабалеўскі мне напісаў: "Первому исполнителю этого цикла за пределами Советского Союза — товарищу Михаилу Забейде на добрую память о встрече в Праге. 16.5.1957 г. Д.Кабалевский".

Калі я праспяваў першы раз "Дзесяць санетаў Шэкспіра" Кабалеўскага (без нот, па памяці), адзін чэшскі кампазітар, віншуючы мяне, сказаў: "Ну, ведаеце, гэта проста гераічны ўчынак! Колькі ж вы сіл мусілі ўкласці ў гэтую ахвярную працу. Не ведаю, ці здолеў бы хто іншы ў нас гэта зрабіць".

У маім рэпертуары былі таксама творы Хачатурана, Шапорына, Чуркіна, Пукста, Аладава, Багатырова, Салаўёва-Сядога, Макравусава і іншых савецкіх кампазітараў.

Я наспяваў многа песень на грамафонныя пласцінкі, і больш за ўсё беларускіх народных. Сярод іх: 1) "Зялёны дубочак", 2) "Ды ўжо сонейка за лес коціцца", 3) "Ляціць сарока", 4) "Калыханка", 5) "Вяселле камара і мухі", 6) "Ой, арол, ты арол", 7) "Ой, ды зарадзілі ягады ў бары", 8) "Што за месяц, што за ясны", 9) "Ці не дудка мая".

Дзве першыя песні я запісаў ад сваёй маці.

На грампласцінкі я наспяваў таксама 10 італьянскіх песень на італьянскай мове кампазітараў Качыні, Пергалезі, Джыардані, Моцарта, Глюка і іншых. Адна з грампласцінак з творамі Моцарта (R'idente la calma) "Радасны спакой" і Гендэля (O del mio dolce ardore) "Маё гарачае каханне" была вызначана мастацкім дырэктарам чэхаславацкай грамафоннай фабрыкі як самая лепшая з грампласцінак, наспяваных за апошнія пяць год.

На грампласцінкі наспяваў яшчэ сем песень на іспанскай мове (у апрацоўцы Мануэля дэ Фалы). Песні беларускія і іспанскія выйшлі і на доўгаіграючых грампласцінках, яны карысталіся такім поспехам, што ўжо даўно распрададзены. Апошняя грампласцінка з неапалітанскай і індыянскай песнямі, наспяваная мною, таксама ўжо распрададзена.

Мае канцэрты носяць своеасаблівы характар. Я стараюся ўсе творы спяваць у арыгінале і на памяць, каб як мага найбольш наблізіць выконваемую рэч да слухача, каб як мага найбольшы след пакінуць у яго душы. "Мастацтва — вялікая сіла", — заўважыў Здэнэк Нэедлы — вялікі чэшскі музыказнаўца. Гэтую праўду заўсёды памятаю і сваім мастацтвам стараюся не толькі цешыць слухача, даваць яму духоўную асалоду, алё і выхоўваць яго, узнімаць, абуджаць у ім лепшыя якасці чалавека. З гутарак пасля канцэртаў і пісем, якія атрымліваю, відаць, што слухачы гэта адчуваюць і разумеюць. А гэта самая вялікая ўзнагарода за маю сціплую, але цяжкую працу. Бо не заўсёды сустракаюся з разуменнем і падтрымкай. Ёсць у людзей нямала перажыткаў старога, як, напрыклад, шавінізм, з якім, праўда, адкрыта сёння ніхто не асмеліцца выступіць. А хто ведае, што робіцца ў душы чалавека? Многа яшчэ ёсць ваўкоў у авечай шкуры. Усё гэта псуе працу і жыццё наогул. Аднак вынікі гэтай працы часта радуюць.

У мінулым і ў гэтым годзе я атрымаў падзяку і прэмію ад чэшскага музычнага фонду "За майстэрскае выкананне песень сучасных чэхаславацкіх кампазітараў". Удзельнічаю таксама ў аглядзе канцэртнага мастацтва Чэхаславакіі 1962 года. Гэта вялікі гонар і адказнасць: з цэлай рэспублікі выбраны толькі чатыры спевакі. З'яўляюся членам секцыі канцэртных мастакоў, якая аб'ядноўвае найлепшых артыстаў усёй рэспублікі. А трэба сказаць, музычнае жыццё Чэхаславакіі высока развіта і арганізавана. Мала якая краіна экспартуе столькі добрых артыстаў за граніцу, як Чэхаславакія. І каб тут утрымацца "над вадою", трэба сапраўды нешта ўмець і нешта сваё мець.

Люблю спяваць дарма, тут няма канкурэнцыі! За такія выступленні атрымліваю шмат падзяк і спецыяльных пісьмаў з падзякамі, напрыклад, ад Саюза чэхаславацка-савецкай дружбы, ад Саюза чэхаславацка-польскай дружбы, ад Камітэта савецкіх грамадзян, ад Міністэрства школ і культуры Чэхаславакіі, ад розных школ і іншых. Быў два разы старшынёй камісіі цэнтральнага круга рэспубліканскага агляду народнай творчасці па сольным спеве.

Адным словам, працу маю тут цэняць, мяне паважаюць і любяць. Ці ўсё? Зразумела — не! Ды ўсяго ж не дасягнуў нават геніяльны Шаляпін.

Тут "спаборнічаюць" два ўплывы: адзін старэйшы, гістарычны — заходні, другі, найноўшы, — усходні. Я — з апошнім, і гэта не ўсім падабаецца. І толькі таму, што я ніколі ў жыцці не карыстаўся нічыёй пратэкцыяй (хоць не раз спаткаўся і з міністрамі, і з прэзідэнтамі), мне бывала і бывае вельмі цяжка. Але аб гэтым пісаць не буду.

Канчаю свае ўспаміны, якія вельмі сціслыя, бо складаюцца з адных фактаў. Няма афарбоўкі. Яны напамінаюць голае дрэва, без убору лістоў і колеру — усяго таго, што робіць дрэва жывым і прыгожым.

Хацеў бы некалькі слоў сказаць тым, хто, як і я, захоча мастацтвам служыць народу:

"Любіце мастацтва ў сабе, а не сябе ў мастацтве" (Станіслаўскі);

"Аднаго таленту мала— трэба працаваць і працаваць" (Б.Сметана);

"Памятайце, што дасканаласць у мастацтве не ведае меж" (Станіслаўскі).

А Радзіме?!

Тое, што сказаў Янка Купала:

*Падымайся з нізін,*
*сакаліна сям'я,*
*Над крыжамі бацькоў,*
*над нягодамі.*
*Занімай, Беларусь*
*маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад*
*між народамі.*

А сабе?

Палепшыць сваё здароўе настолькі, каб змог паказаць прыгажосць нашай песні і там, дзе яна нарадзілася.

*Не знаю, калі я паспеў*
*пастарэць,*
*Расстацца з юнацкімі марамі;*
*Амаль развучыўся*
*смяяцца і пець,*
*Узброіў свой нос акулярамі.*

(М.Танк "Роздум".)

15(11—25)ІV. 1962 г. Прага.

* Белавежа. Беласток. 1965. №1.

УЗНАГАРОДА

## Спявачка Алеся атрымала медаль Францыска Скарыны

*Салістка ансамбля "Сябры" Алеся стала адной з 50 асоб, што днямі былі ўганараваны медалём імя Францыска Скарыны.*



Нягледзячы на тое што спявачка працуе на сцэне каля 20 гадоў, гэта яе першая буйная беларуская ўрадавая ўзнагарода. Дарэчы, гэта ўжо другі медаль Францыска Скарыны ў сям'і Алесі. У 1997 годзе яе атрымаў бацька спявачкі — кіраўнік ансамбля "Сябры" **Анатоль Ярмоленка**.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

ВІНШУЕМ!

## Брава, Алена Брава!

*Пісьменніца з Беларусі Алена Брава стала лаўрэатам прэстыжнай прэміі ў ЗША.*



Цікава, што прэмія, якой узнагародзілі беларуску, носіць назву "Срэбная куля". Яе штогод уручае таленавітым пісьменнікам амерыканскае выдавецтва Franc-Tireur USA. Сёлета Міжнародная прэмія прысуджана Алене Брава з фармулёўкай "па сукупнасці выдадзенага і ў перспектыве чаканага". У ЗША аўтар выдала некалькі сваіх кніг у перакладзе на рускую мову. Свет за акіянам убачылі "Каханне ў ценю казармаў Манкада", "Спектакль у чорным тэатры" і "Менада і яе сатыры".

**Марыя БУДНІК.**

ПЕРСОНА

*Маэстро Вячеслав ВОЛИЧ:*

# «Плакаться не будем. Не дождутся»

Человек должен спасать себя сам. Но хорошо оплачиваемой работы дома не хватает. И люди едут за границу. Однако то, что у рабочих называется гастарбайтерством, у ученых — "утечкой мозгов", в профессиях творческих считается востребованностью и успехом. Особенно у музыкантов. Лучшие из них имеют не просто приглашения на разовые выступления, а долгосрочные контракты с зарубежными труппами. И живут на два театра. Да, тяжело физически и психологически затратно. Но иного выхода не видят. С другой стороны, старая слава новую любит — пусть артисты к домашним лаврам собирают по миру новые победные венки.



Известный дирижер Большого театра Республики Беларусь **Вячеслав ВОЛИЧ** — человек талантливый, награжденный медалью Франциска Скорины, а также специальной премией президента деятелям культуры и искусства, — не так давно получил приглашение на работу в Москву, в Музыкальный академический театр имени Станиславского и Немировича-Данченко. Это очень известный коллектив с большой историей, отменной репутацией и серьезными столичными амбициями. Но что дало это лично маэстро Воличу?

— Много интересной работы — вот что меня привлекает в Москве, — уверенно сказал Вячеслав Иванович. — На данном этапе в Минске я ее не имею: в родном театре самые интересные творческие проекты забирает главный дирижер, и остается много свободного времени. Не стоять же с протянутой рукой. Плакаться не будем. Не дождутся.

**— А что в Москве? Какие впечатления? Быстро прижились?**

— Невероятный город, с невероятными скоростями, разворотом событий и уровнем людей, которые эти события творят. Я бы сказал, жизнь там идет захватывающе. В последние три сезона я был "гостем-дирижером" в Музыкальном академическом театре имени Станиславского и Немировича-Данченко. И в этом качестве вел спектакль "Мадам Баттерфляй". А в прошлом году главный дирижер Феликс Коробов предложил мне участвовать в постановке оперы Прокофьева "Война и мир". Я с радостью согласился. Спектакль всегда идет с аншлагом. Сейчас выдвинут на премию "Золотая маска". Это грандиозное сочинение, потрясающая музыка.

**— Как говорил Михаил Шолохов про эту великую книгу Льва Толстого: с пола не поднять, не то что экранизировать или спектакль сделать.**

— Согласен. Оперные театры ставят это произведение редко, потому что и книга, и музыка огромны по масштабу. Например, только перечень исполнителей занимает три листа в партитуре, можно в Книгу Гиннесса заносить. Во втором акте, например, на сцене одновременно находится около 400 человек. Солисты, два хора, а также около 200 статистов — русское и французское воинство. Но вернемся к моему сотрудничеству. С начала сезона оно перешло на другой этап — я стал постоянным дирижером, совмещаю работу в Минске и Москве.

**— Вы идете по стопам своего старшего товарища и учителя — Александра Михайловича Анисимова. У него всегда огромный творческий замах, одним Минском он никогда не ограничивался. Теперь, кроме Национального симфонического оркестра в Беларуси, работает в Театре оперы и балета в Самаре.**

— Да. Только Александр Михайлович всегда на самой верхней ступеньке — он театрами и оркестрами руководит.

**— А как восприняли ваше совмещение дома, в администрации театра? С пониманием? Маэстро Анисимов уже всех давно воспитал?**

— Вы знаете, наши белорусские традиции — сиди и не высовывайся — не дают порой правильно воспринимать такое естественное, на мой взгляд, положение вещей. Во всем мире творческий человек сотрудничает с многими театрами в разных странах. Но у нас, к сожалению, это как порядок вещей не воспринимается. Часто возникают непредвиденные трения. Хотя предварительно, казалось бы, мы обо всем договариваемся. Но провинциализм — знай свое место! — побеждает. И случаются конфликты.

**— В каждой профессии есть такие ситуации. Противостоять можно единственным аргументом: высоким профессионализмом.**

— Я тоже считаю, что это единственный путь. И он гораздо продуктивнее, чем бряцать оружием. Хотя первое эмоциональное желание — уйти без последнего "прости". Но потом, как правило, вспоминаешь, что ты в театре все-таки 20-й сезон, и бросать к чьим-то ногам все, что с ним связано... А в хорошем театре все и всё связаны, как в семье. Характеры, амбиции, претензии с лихвой компенсируются единомыслием, горением на сцене. Творческим родством. В московском театре это особенно чувствуется.

**— А про материальное можно? Где вы в Москве живете?**

— На съемной квартире.

**— Вот как? И выкладываете за нее всю зарплату?**

— Нет. Около 1 тысячи долларов.

**— И еще на жизнь для семьи остается? Хорошие заработки.**

— Материальная составляющая не главное, поверьте. Сейчас в Москве мы начали подготовку к постановке блестящей оперы Россини "Итальянка в Алжире". Это дебют талантливого молодого режиссера Евгения Писарева, "выкормыша" Олега Табакова. А художником выступает наш знаменитый земляк Зиновий Марголин.

**— О, если Марголин, то он обязательно забомбит что-то нетрадиционное, экстраординарное.**

— Я очень этому рад, мы встречаемся в новой работе через много-много лет (10 лет назад вместе ставили в Минске оперу "Борис Годунов"). Зиновий в России очень востребован и оценен по заслугам: он четырехкратный лауреат престижной "Золотой маски".

**— А вот не уехал бы из Минска... Впрочем, его отъезд, помню, был по тем же причинам, которые заставляют и вас жить на два дома: не было работы.**

— Сегодня в Большом театре Москвы работают, а значит, конкурентоспособны наши ведущие солисты — Анастасия Москвина, Эдуард Мартынюк, Оксана Волкова. И смотрятся очень достойно. А Юрий Городецкий имеет контракт в Канаде и США, точнее в Вашингтоне. Понимаете, солисты накапливают зарубежный опыт и приезжают в Минск уже другими певцами. У них появляется хорошая мастеровитость. И за ними поднимается общая планка театра! А в Москве, скажу вам, у артистов даже взгляд другой, в глазах другое выражение: тренированность, напряженность, готовность брать высоты. И уверенность в своих силах.

**— Если Москва предложит еще больше работы, переедете насовсем?**

— Москва город очень сложный, слезам не верит, обещаний не раздает. Но желание работать у меня огромно.

**Елена МОЛОЧКО.**

ПЛЕНЭР

# Игра в куклы Ирины Ханулик-Ромбальской

*Весь цвет белорусского бомонда собрался в тесном подвальчике, чтобы посмотреть на дело рук одной из самых известных белорусских телеведущих, модели и актрисы Ирины Ханулик-Ромбальской.*

Каких новостей ожидают от светских львиц? Максимум — насколько похудела или поправилась, в чем пришла на вечеринку, кто ее сопровождал да с кем уехала. В последнее время с таким однобоким взглядом на имидж стильной красавицы не согласны многие белорусские дивы. Певица **Анна Гомонова**, например, открыла персональную выставку картин, бывшая "Мисс Беларусь" **Ольга Хижинкова** меняет одну престижную должность на другую. Ну а **Ирина Хануник-Ромбальская** известна не только как успешная телеведущая, сценарист, артистка, модель, жена и мама. На днях Ирина продемонстрировала еще одну грань своего таланта — открыла персональную выставку скульптурных кукол "MONEYкенщицы. Iznanka".



Несложно догадаться, что главными героями выставки стали куклы в образах моделей. Правда, того, что представила Ирина, от нее точно никто не ожидал. Образы роковых красавиц получились необыкновенно точными, они отличаются интересной манерой автора подмечать определенную деталь и доводить ее до гротеска. Одна кукла-модель у автора так боготворит бренды, что и сама превратилась в модный аксессуар. Другая так заигралась с образами, что в буквальном смысле слова потеряла голову. Стоит отметить, что все куклы проработаны очень тщательно — продуманы мельчайшие детали, а для полноты картины иногда использовались и по-настоящему ценные вещи. Например, фотоаппарат 1935 года выпуска или миниатюрные ювелирные украшения. Детали можно рассматривать часами, а если вдруг надоест, стоит обратить внимание на стены. Вместе с куклами представлены результаты фотосессии, которую режиссировала Ирина. На снимках **Михаила Моруги** известные красавицы показывают изнанку модельной жизни. Сама Хануник-Ромбальская и ее коллеги по подиуму **Ольга Хижинкова, Кристина Кучинская** и **Инесса Кунцевич** демонстрировали — жизнь модели действительно тяжела.



Почти каждый из многочисленных гостей презентации считал своим долгом высказать Ирине не только восхищение работами, но и уверенность в том, что уж сам автор не похож на своих кукол. Хозяйка вечера только улыбалась — образы лепила и с себя, и со своих гостей. Последних, кстати, было ну очень много. Видимо, обворожительной ведущей просто невозможно отказать, ведь на открытие выставки Хануник-Ромбальской примчался даже министр культуры **Борис Светлов**. Чиновник признался, что всегда был поклонником ведущей и даже болел за нее на телешоу "Битва городов". Несколько добрых слов в адрес подчиненной сказал другой высокопоставленный чиновник — директор канала СТВ **Юрий Козиятко**.

Вечер вела коллега Ирины **Нина Богданова**. Обе дамы выбрали себе схожие образы специально, чтобы подчеркнуть тему, — тут и модные заклепки, и кожа, и шпильки-гладиаторы, и бодиарт...

Зато певица **Инна Афанасьева** пришла на вечер в потертых джинсах и свободной футболке. Возможно, не совсем богемно, но достаточно стильно. С другой стороны, кому что-то доказывать одной из самых известных певиц страны? Были на вечере и другие завсегдатаи светских тусовок для избранных: художник **Андрей Смоляк** и его жена **Ольга**. Было и много прочих, возможно, менее узнаваемых, но от этого не менее интересных гостей. Говорят, что даже знаменитый итальянский дизайнер пришел посмотреть на работы Ирины. Правда, что это был за маэстро и какое впечатление у него осталось после встречи с куклами от телеведущей, история умалчивает.

Гостей было так много, что уютный зальчик галереи "Университет культуры" буквально трещал по швам. Ирина Хануник-Ромбальская, как бабочка, порхала среди приглашенных и кукол. Кстати, сегодня у нее День рождения — 8 февраля красавице исполнится 30 лет. Выходит, это и есть самый лучший возраст для игры в куклы.

**Мария МАЛЕВИЧ.**

